лісты ў рэдакцыю

## А скульля!

*У кожнае мовы ёсьць словы-сымбалі. У расейцаў гэта вядома якое слова. У беларусаў, на маю думку, гэта выраз «скульля», які напрошваецца кожны раз, калі маеце дрэнны настрой, жадаеце пажартаваць, пасварыцца альбо проста паспрачацца.*

*З гэтым словам меў я дзьве парадыйныя гісторыі.*

*Неяк дэкан факультэту, на якім я вучыўся, паклікаў мяне да сябе ў кабінэт, дастаў маю заяву — як заўсёды, аб пераносе аплаты за навучаньне, як заўсёды, напісаную па-беларуску і, як заўсёды, ён сказаў да болю вядомую фразу: «Перапішыце заяву па-расейску». Раней я заўжды маўчаў, але ў гэты раз на мяне нешта такое найшло, што я выпаліў: «Скульля!» — «Што ёсьць «скульля»?» — спытаўся прафэсар, які ведае дзьве замежныя, толькі не беларускую. Безумоўна, я не растлумачыў. Праз некалькі дзён сустракаю яго ў калідоры. Ён мне: «А вам ня сорамна?» Дазнаўся-такі, што значыць «скульля!» Але больш з патрабаваньнямі пісаць па-расейску не чапляўся.*

*Шлындаючыся неяк па Воршы, убачыў слоганы на прамысловым паркане: «Живет Россия. Отечество и славянское могущество!» Унізе было падпісана крывавата, але шчыра: «Скульля!»*

**Уладзіслаў Гарбацкі, Віцебск**

## Ад рэдактара

Пасьля публікацыі ў мінулых нумарах «НН» водгукаў на Марш Свабоды 17 кастрычніка рэдакцыя атрымала ліст Сяргея Высоцкага, старшыні Беларускай Партыі Свабоды. Ён лічыць, што аўтары «НН» дыскрэдытавалі БПС і Малады Фронт, іхны ўдзел у згаданай акцыі: «Наша Ніва» ў №29 ды №30 колькі разоў дапусьціла скажэньне фактаў, а таксама звычайныя абразы на мой адрас ды ў бок змагарнай БПС».

На старонках «НН» выказваюцца розныя думкі, у тым ліку і спадара Высоцкага. Гэта прынцып нашае незалежнасьці і журналісцкага прафэсіяналізму. Газэта — люстэрка таго, што адбываецца ў грамадзтве. І калі паміж патрыятычнымі арганізацыямі ўзьнікаюць няпростыя дачыненьні, газэта толькі адлюстроўвае тое, што ёсьць у жыцьці. Памылкова думаць, што газэта можа кагосьці пасварыць або памірыць. Гэта суб'екты палітыкі сустракаюцца між сабою ў інфармацыйным полі, а не журналісты, перад якімі стаяць зусім іншыя задачы.

«НН» — не зьяўляецца органам каго- або чаго-небудзь. Гэта значыць, нельга сказаць, што «НН» кагосьці абражае і г.д. Закіды могуць тычыцца канкрэтных аўтараў і канкрэтных матэрыялаў.

Апроч гэтага, «НН» дае на сваіх старонках літаратурна выбераныя тэксты. Вось чаму ліст сп. Высоцкага мы ня можам надрукаваць у тым выглядзе, у якім яго атрымалі. Нарэшце, рэдакцыя не выказвае сымпатыяў ці антыпатыяў, падзяляючы беларускія патрыятычныя суполкі, у нас няма падставаў быць тэндэнцыйнымі.

«Мы, — піша сп. Высоцкі, — адзіная палітычная арганізацыя, якая заявіла аб сваёй поўнай падтрымцы дзейнасьці маніфэстоўцаў... Разьвіцьцё падзеяў 17-га набыло менавіта той характар, які прапагандуе БПС, і мы за тое нясем адказнасьць». Сп. Высоцкі крытыкуе памяркоўных арганізатараў Маршу, якія не запрасілі Партыю Свабоды да ўдзелу ў Маршы. Чаму не запрасілі? Таму што памяркоўныя баяцца ўзрастаючай сілы правых. Нешта падобнае адбылося ў 1996 годзе, калі памяркоўны ВС паслухаўся крамлёўскіх дзядзек і не паклікаў на абарону незалежнасьці народ. Неразумна робяць і тыя газэты, якія зноў ставяць на памяркоўных палітыкаў, а не на радыкальныя сілы, выстаўляючы апошніх як нейкіх «адмарозкаў», — лічыць сп. Высоцкі і працягвае:

«Тым ня менш, Партыя Свабоды высакародна дапамагла дэманстрантам ды ўзяла ўдзел у акцыі адным аддзелам у 45 чалавек, у першую чаргу, з-за пачуцьця адказнасьці за іншую непадрыхтаваную моладзь». Менавіта ратаваньне маладых ад міліцэйскіх пабояў было мэтай сяброў БПС, а ня тое, што ў «НН» напісаў нехта «Драб» — падвесьці моладзь да сутыкненьня зь міліцыяй. «Шмат сяброў БПС стаяла ў шыхтах побач зь легіёнаўцамі ды іншымі патрыётамі», — піша сп.Высоцкі, абвяргаючы словы «Драба», быццам «партыйцы зьехалі ў трамваі». «Апошняя справа — дзяліць гэтых залатых хлопцаў на кепскіх (БПС і Малады Фронт) ды добрых (зь іншых структураў)».

З гэтай высновай нельга не пагадзіцца.

На завяршэньне аўтар ліста зусім справядліва заўважае, што крытыку канкрэтнай асобы ці арганізацыі трэба падпісваць уласным імем, а не псэўданімам, як гэта здарылася ў выпадку са згаданым «Драбам». Мушу зьвярнуць на гэта ўвагу нашых аўтараў.

Рэзюмэ. Матывы, выказаныя ў допісе сп. Высоцкага, зводзяцца ўрэшце да аднаго — газэты не надаюць належнае ўвагі БПС або даюць пра яе скажоную інфармацыю. Магчыма, тут прычына ў тым, што партыя мусіла б мець сваіх прыхільнікаў і ў асяродку прафэсійных журналістаў, а не чакаць, калі нехта прыйдзе і напіша немаведама што або заклікаць журналістаў да адказнасьці. Ня справа «НН» кагосьці «раскручваць» або «тапіць». Імідж палітыкаў і палітычных партыяў — справа саміх партыяў і палітыкаў. Дакажыце сваю рацыю. Але зрабіце гэта прафэсійна і цікава для нашых чытачоў.

**Рэдактар**

## Усенароднае маўчаньне

«Новая газэта», орган наваполацкага гарвыканкаму, напрыканцы кастрычніка праводзіла прамую лінію з чытачамі для ўсенароднага абмеркаваньня саюзнай дамовы. За цэлы дзень ніхто не патэлефанаваў. Нават пэнсіянэры, якія заўсягды адгукаюцца.

Каго не падманеш — дык то эканоміку. Полацкія ўлады зьвярнуліся да сяльчанаў, каб тыя разабралі з калгасаў маладняк на зімоўку. Гаспадаркі не нарыхтавалі кармоў. Частку маладняка перавязуць у Хойніцкі раён. Там ёсьць чым карміць. Відавочна, з чарнобыльскімі прыправамі.

**З Наваполацку — Алесь Аркуш**

## Міны ўвосені лічаць

У аўторак раніцай у дзяжурную частку міліцыі патэлефанаваў незнаёмы і паведаміў аб закладзенай міне ў Астравецкім райвыканкаме. Некалькі гадзінаў будынак аглядалі сапёры з сабакам, але так нічога і не знайшлі. Так цяпер ва ўсёй Беларусі весяляцца.

**З Астраўца — Мар'ян Вянгроўскі**

## Банкаматы ў Горадні

На гарадзенскім «Азоце» пачалі выплочваць заробак на магнітныя карткі, за якія можна купляць што хоч у 11 гарадзкіх крамах, а можна атрымліваць гатоўку ў спэцыяльных банкаматах. За грошы, што ляжаць на картцы, аўтаматычна налічваюць працэнты. Калі ж згубіш, дык трэба адразу пазваніць на нумар, які будзе дзень і ноч працаваць, і сказаць: тады картку адразу заблякуюць. Зручна, бо ня трэба цягаць за сабой торбу з лукашэнкаўскімі рублямі. Як у Эўропе: там усе на картках жывуць.

## Рэчыца рабіцьме караблі для Нідэрляндаў

Намесьнік міністру транспарту Уласеня паехаў у Горынгем, у Нідэрлянды, каб дамовіцца аб пабудове караблёў для Нідэрляндаў на Рэчыцкай і Гомельскай верфях. 60% абаротных сродкаў дае на пабудову ўрад, а 40% — розныя айчынныя інвэстары. Караблі ўдаюцца на 30% дзешавейшыя, як на сусьветным рынку. З 1992 году тут ужо зрабілі 5 карпусоў для галяндцаў.

**Б.Т.**

## Ці ўвядуць карткі?

Дэпутаты ВС зьбіраліся ў сераду ў літоўскім Сэйме на пасяджаньне прэзыдыюму. Казалі між іншым, што «у Беларусі цяпер паўсюдна рэжуць кароваў, а таму стала бракаваць малочнага. У сьнежні, паводле парлямэнтароў, у краіне будзе ўведзеная сыстэма прадуктовых картак», — паведаміла літоўская газэта «Respublika».



Архіяпіскап Юры (Рыжы)з айцом Іванам (Спасюком) І ярэем Леанідам (Акаловічам) ля Каложы

# ПРАЗ ГОЛАД — ДА АЎТАКЕФАЛІІ

*Працяг са старонкі 1.*

Айцец Іван падаў заяўку на рэгістрацыю ягонага прыходу ў Гарадзенскі аблвыканкам, але там яму адмовілі і накіравалі ў Камітэт па справах рэлігіі. У апошнім была створаная экспэртная камісія, якая на сваім апошнім паседжаньні вылучыла, урэшце, канкрэтныя прэтэнзіі па статуце замест былога, калі айца Івана і ягоных прыхільнікаў абвінавачвалі ў дзейнасьці, “направленной против суверенитета Республики Беларусь, ее конституционного строя и гражданского согласия”.

Прадстаўнікі дзяржавы, ад якой царква аддзеленая паводле закону, усяляк перашкаджаюць дзейнасьці прыходу ў Пагранічным: на айца Івана наклалі пару штрафаў на падставе парушэньня 193-га артыкулу Адміністрацыйнага кодэксу, а зараз, пасьля абвяшчэньня галадоўкі, ён увесь час выслухвае ананімныя тэлефонныя пагрозы. Улады, зразумела, баяцца паўтарэньня ўкраінскага досьведу, дзе незалежная царква набрала ўжо досыць сілаў, каб стварыць канкурэнцыю мясцоваму экзархату Маскоўскага Патрыярхату. Таму ня дзіўна, што справай, па нашых зьвестках, цікавіліся нават супрацоўнікі КГБ. Перашкоды робяцца ня толькі праз адмову ў рэгістраваньні. Калі падобная сытуацыя ўзьнікла ў Лідзе і вернікі распачалі ўзьвядзеньне сваёй бажніцы, гарадзкое кіраўніцтва пайшло на авантуру, разьмясьціўшы дарожныя знакі наўкола гэтак, каб ніякая тэхніка не магла наблізіцца да месца будоўлі.

Заяву аб галадоўцы і пару соцень подпісаў у абарону аўтакефаліі перадалі паслу Віку і ў Гельсынскі камітэт. Прычым такую прагу вернікаў да стварэньня аўтакефальнае царквы можна патлумачыць ня толькі жаданьнем слухаць казані на роднай мове. Прычына тут ёсьць і чыста матэр'яльная: многія праваслаўныя проста ўжо ня ў стане плаціць велічэзныя грошы за царкоўныя паслугі, расцэнкі на якія дыктуюцца беспасярэдне з Масквы. І грошы вернікаў ідуць немаведама куды: прыкра глядзець на абшарпаныя бажніцы ў той час, як праваслаўныя ярархі дазваляюць сабе пабудову шыкоўных трохпавярховых катэджаў.

Беларускія аўтакефалісты вырашылі падацца пад крыло Сусьветнага Амэрыканскага Патрыярхату, бо артадаксальны Патрыярх канстанцінопальскі дужа зважае на Маскву, а кіраўнікі дыяспарнай БАПЦ ніякай дапамогі распачатаму руху не аказваюць. Шмат спадзяваньняў ускладаецца на падтрымку сястрынскай Украінскай Аўтакефальнай Царквы, якая ўжо рыхтуе адпаведную заяву і дзе найбольшым прыхільнікам беларускай аўтакефалізацыі зьяўляецца Архіяпіскап Ровенскі Стафан. А з далёкай Гішпаніі прыяжджалі каталёнскія тэлевізійшчыкі спэцыяльна, каб зьняць рэпартаж аб царкоўных незалежніках.

Сёньня, у панядзелак, стануць вядомыя канкрэтныя прычыны адмовы ў рэгістрацыі. Але ні айцец Іван, ні ягоны таварыш у справе айцец Леанід (Акаловіч) не губляюць надзеі. Яны ўпэўненыя, што рух значна пашырыцца менавіта пасьля афіцыйнай рэгістрацыі, бо ідэю падтрымліваюць нават некаторыя прадстаўнікі Беларускага Экзархату. Мо хоць праз гэта прыйдзе ў Беларусь незалежнасьць?

Айцец Іван мае намер працягваць галадоўку да таго часу, пакуль ня будзе дадзены дазвол на існаваньне ягонага прыходу. Кажуць, што прадстаўнікі афіцыйных уладаў цынічна жартуюць са сьвятара: нічога, няхай пагаладуе, пост, маўляў, нікому не зашкодзіць. “На Піліпаўку воўк нема вые...”

**Анатоль Прасаловіч**

выхад у горад

# ЯК ПРАВІЛЬНА ВЫМАВІЦЬ «БЕЛАРУСЬ»

Зьміцер БАРТОСІК

Захацеў я звадзіць дзяўчыну на «Сібірскага цырульніка». Два разы прызначаў сустрэчы ля кіно, і два разы ня мог здабыць білета. Прычым, я ж ведаў, што фільм кепскі. Паглядзеў пару месяцаў таму ў Вільні, а таму ня надта засмучаўся. Для тых, хто яшчэ не глядзеў і вагаецца, пераказваю сюжэт.

У вялікую Расейскую імпэрыю прыяжджае амэрыканскі вынаходнік. Каб пабудаваць лесапільную машыну з паэтычнай назваю «Сібірскі цырульнік». Але на сканчэньне праекту янкі не хапае рублёў. Тады рызыкант выклікае з далёкай разбэшчанай Амэрыкі вядомую куртызанку, якую выдае за сваю дачку. Каб яна спакушала вышэйшае чынавенства на «бабкі». Спрактыкаваная ў нячыстаплотным флірце пані едзе ў Маскву.

А Расея, блін, духоўна-я-я-я! Купалы зьзяюць, трыкалёры лунаюць, масьлянічныя фаервэркі выбухаюць, гарэлка ліецца зь вёдраў наўпрост у глоткі, імпэратар Аляксандар III-Міхалкоў на кані скача. І не стрывала чэрствае заходняе сэрца перад прыгажосьцю й шляхетнасьцю расейскага юнкера. Але бядотнае выйшла ў іх каханьне. Для расейца мужнага яно сібірскім астрогам скончылася, для блядзі ж мэрыканскай рускім плодам пад неславянскім сэрцам.

І ня сорамна ж аўтару «Мэханічнага піяніна» гэткую пашляціну паказваць! Але бог зь ім. Мяне зьдзіўляе прырода менскага ажыятажу. У Вільні нічога падобнага неназіралася. Фільм ціха прайшоў у шэрагу іншых сусьветных прэм'ераў. У нас жа... Ну з расейцамі зразумела. Па сабе ведаю, ім як наркотык лішні раз трэба хоць які доказ уласнай вялікасьці. Але няўжо й беларусам захацелася стаць уровень з «Иваном Великим»?

Адказ я пачуў за сьпінаю пасьля сэансу. «Вот, что значит Россия». Сказана гэта было ня з гонарам за сваё, а зь лёгкай зайздрасьцю да чужога. Я абярнуўся і ўбачыў тыповага менскага «дачніка». Сказаць з такім сама прыдыханьнем: «Вот, что значит Белоруссия» было б немагчыма. Як бы ні хацелася. А сказаць: «Вось гэта Расея» не атрымалася б.

Нашыя краіны ў сваіх мовах ня толькі па-рознаму вымаўляюцца, яны яшчэ й па-рознаму гучаць. Я маю на ўвазе вобраз, што ствараюць гукі. Расейскую «Россию» інакш як горда й ня вымавіш. Нават з прыстаўкай «твою мать». А беларуская «Расея» мае налёт недаверу. Хаця б да той пыхі. Расейская ж «Расея» — гэта ўвогуле жарганізм прасталюдзінаў. Расейскую ж «Белоруссию» лёгка зблытаць з Барусіяй. Можа, калісьці й зблытаюць. Калі мы навучымся вымаўляць слова «Беларусь». Ня думаю, што для гэтага патрэбнае слова-антыпод, якім для Расеі ёсьць «Захад».

# УКРАІНСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ШУКАЕ "МЕНШАЕ ЗЛО"

Мікола РАБЧУК

Пару тыдняў таму, пад час традыцыйнага наведваньня Львова, я зацята, да хрыпаты, пасварыўся з бацькам. Пасварыўся за палітыку: ён з імпэтам палітаглядніка каналу УТ-1 даводзіў, што Кучма — адзіны кандыдат, за якога варта ісьці галасаваць; я зь ня меншым імпэтам даводзіў, што горшае кандыдатуры сярод тузіну прэтэндэнтаў немагчыма ўявіць.

Апошні раз мы так люта спрачаліся зь ім 26 гадоў таму, калі мяне, дваццаціґадовага пацана, выкідалі зь львоўскае палітэхнікі, нібыта "за палітыку", і бацька, для маёй, вядома, карысьці, тлумачыў, што абух пугай не пераб'еш, што саветы прыйшлі ва Ўкраіну надоўга, магчыма назаўсёды, што можна вельмі проста загубіць сваё маладое жыцьцё — а дзеля чаго? Дзеля нейкіх іррэальных ідэяў? Ці можа дзеля народу, які быдлам быў, быдлам і застаўся і будзе хадзіць у ярме пад усякай уладай, якая здолее яго запрэгчы?

За дваццаць шэсьць гадоў мае стаўленьне да ўлады ня дужа зьмянілася, як ня дужа зьмянілася і сама ўлада. Украіна, умоўна кажучы, перастала быць камуністычнай, бо сама эліта з уласнае ініцыятывы адмовілася ад марксіцка-ленінскае ідэалёгіі — як ад неэфэктыўнай і непатрэбнай больш для ўтрыманьня ўлады. Аднак Украіна не перастала быць савецкай — ні паводле пэрсанальнага, так бы мовіць, складу пануючае намэнклятуры, што зраслася з крымінальным сьветам і стала зваецца "алігархіяй", ні паводле спосабу, уласна, зьдзяйсьненьня ўлады — з дамінаваньнем "тэлефоннага права", кантролем над мас-мэдыямі, мэтанакіраваным разбурэньнем зародкаў цывілізаванага грамадзтва і рэальнае шматпартыйнасьці, а галоўнае — захаваньнем паўфэадальнае, патэрналісцкае эканомікі, у якой становішча індывіда вызначаецца не эфэктыўнасьцю яго гаспадарчае дзейнасьці, а перш за ўсё — сувязямі "пры дварэ".

Такім чынам, гаворка йдзе не пра "дзікі капіталізм" на постсавецкай прасторы, якім нас часам любяць палохаць, а, хутчэй, пра "зьдзічэлы", дэгенэратыўны сацыялізм, у якім намэнклятура ці то "алігархія", пазбыўшыся балясту даўно ўжо спарахнелае ідэалёгіі, здабыла ажно тры калясальныя перавагі. Па-першае, здолела фактычна бескантрольна разрабаваць нацыянальныя багацьці, не зважаючы больш на патрабаваньні партыйнае ґіерархіі і, бадай, фармальнае партыйнае дысцыпліны. Па-другое, зьліквідаваўшы "жалезную заслону", атрымала магчымасьць вывозіць за мяжу капіталы, дзяцей, унукаў і, урэшце, уцякаць туды назаўсёды — пераварваць у швэйцарскіх ды каліфарнійскіх "хацінках" нарабаванае. І, па-трэцяе, спакусіўшы ўладай двух-трох прыкметных дзеячоў апазыцыі, намэнклятура пераклала на дэмакратаў адказнасьць за вынікі сваёй кампрадорскае дзейнасьці, канчаткова дэзарыентаваўшы і без таго дэзарыентаванае і палітычна непісьменнае насельніцтва.

Маючы параўнальна невялікую, але моцную сацыяльную базу (каля 25% выбарцаў) нацыянал-дэмакраты маглі істотна паўплываць на барацьбу за ўладу паміж намэнклятурнымі прэтэндэнтамі, аднак, зь нейкай сярмяжнай даверлівасьцю яны прынялі навязаную ім мадэль палітычных паводзінаў: ратаваць "нашых" сабачых сыноў ад "іхных", то бок ад (пра)маскоўскіх; бараніць прайдзісьветаў пад жоўта-сінімі сьцягамі ад прайдзісьветаў пад сьцягамі чырвонымі. Не каб хаця разгледзець магчымасьць салідарнага галасаваньня супраць абодвух намэнклятурных кандыдатаў адразу — нават думкі такой ня ўзьнікла ў лідэраў нацыянальна-дэмакратычнае апазыцыі — ні ў 1994 годзе, калі яны пакорліва павялі свой электарат падтрымліваць "дрэннага" Краўчука супраць "яшчэ горшага" Кучмы, ні зараз, калі гэтак жа бяздумна зьбіраюцца "ратаваць" у другім туры "дрэннага" Кучму ад "яшчэ горшага" Сіманенкі. Дык ці варта зьдзіўляцца, што, дзякуючы такой стратэгіі, нацыянал-дэмакраты, у прыватнасьці Рух, робіцца ўсё больш маргінальнай палітычнай сілай, якой можна, хіба, адвесьці ролю традыцыйнага "бандэраўскага" пудзіла ў камуністычных агітках або скарыстаць у якасьці масоўкі пад час глябальнае кампаніі ў падтрымку дзейнага і, вядома, безальтэрнатыўнага правадыра нацыі.

Жыхары Львова, паводле маіх назіраньняў, ня маюць аніякіх ілюзіяў як адносна прэзыдэнта, так і адносна створанае ім палітычнае сыстэмы ўлады. І ўсё ж, шмат хто зьбіраецца галасаваць за Кучму як за "меншае зло", толькі б не дайшло, ня дай Божа, да перамогі зла большага, імпэрска-камуністычнага.

"А ўсё-ткі ён дзяржаўнік, — кажа мой бацька, — і супраць камуністаў".

Слова "дзяржаўнік» для галічаніна — гэта як індульгенцыя ад усіх сьмяротных грахоў, гэта пропуск, як мінімум, у Чысьцец, калі ўжо адразу ня ў Рай. Дзяржаўнікам быў Ідзі Амін, татачка Дзювалье, незабыўны Мабуту і яшчэ больш славутны і непараўнальны Бакаса. Усе яны надзвычай пампавалі над пабудовай дзяржаўнасьці ва Ўгандзе, Гаіці, Заіры і, вядома, у Цэнтральнаафрыканскай Рэспубліцы. Трыццаць гадоў таму, напрыклад, у бэльгійскім Конга, перад выгнаньнем адтуль праклятых каляністараў, было 140 тысячаў кілямэтраў шасэйных дарог. Цяпер засталося 15 тысячаў. Рэшта зарасла джунглямі, зруйнавалася, зьнікла. Штосьці падобнае сталася і з украінскім гандлёвым флотам. За дзесяць гадоў ён распусьціўся, прапаў сярод неаглядных акіянскіх абсягаў. Магчыма, толькі Леанід Краўчук ведае паўныя падрабязнасьці такое загадкавае прыроднае зьявы. Але наўрад ці ён перадасьць гэтыя свае эзатэрычныя веды каму-небудзь акрамя ўласнага сына — пасьпяховага, як нам вядома, "бізнэсоўца".

Дзяржаўнікам, паводле гэткае лёгікі, ёсьць усякая істота, якая, прысмактаўшыся да капіталаў даверанага ёй дзяржаўнага арганізму, не дапускае да вышэйазначаных капіталаў іншых гэткіх істотаў, кваліфікуючы іх як замежных і ўнутраных ворагаў. З такога пункту гледжаньня ўкраінская посткамуністычная эліта зьяўляецца безумоўна дзяржаўніцкай. Экспарт марганцу, нікелевае руды, мэталапракату, перапродаж расейскае нафты і газу і да т.п. доўга яшчэ будуць зьяўляцца асноўнымі чыньнікамі дзяржаватворчага бюджэту на нашых эўраафрыканскіх — эўразыйскіх, прабачце, — абсягах. А той, хто лічыць, што камуністы, дапаўшы да вышэйзгаданых капіталаў экспарту і рээкспарту, крэдытаваньня і ліцэнзаваньня, адмовяцца раптам ад такога перспэктыўнага дзяржавабудаўніцтва на карысьць маскоўскіх спэцыялістаў, па меншай меры, прабачце, нічога ня цяміць ні ў палітэканоміі, ні ў палітпсыхалёгіі.

Наўрад ці многа ва Ўкраіне тых, хто спадзяецца ў наступныя пяць гадоў пабачыць "іншага" Кучму, адрознага ад таго, якога бачылі папярэднія пяць гадоў і які пазаваліваў усё, што можна было пазаваліваць, аднача́сова паставіўшы сусьветныя рэкорды асабістай невыразнасьці, прафэсійнай бездапаможнасьці і карумпаванасьці свайго атачэньня. Безумоўна, ёсьць людзі, якіх такі стан рэчаў задавальняе і якія будуць бараніць дзейнага прэзыдэнта ўсімі магчымымі сродкамі. Ёсьць таксама значная колькасьць "гома савецікусаў", якія або проста ня пойдуць галасаваць (і тым самым падтрымаюць дзейную ўладу), або пойдуць і прагаласуюць так, як ім скажа начальства, то бок тая ж самая дзейная ўлада. Але ёсьць і нямала сьвядомых грамадзянаў Украіны, якія будуць галасаваць за Леаніда Кучму, ня маючы ніякіх ілюзіяў пра яго былыя, сучасныя і будучыя "посьпехі". Проста яны баяцца, што прыйдуць "камунякі" і заганяць нас назад у імпэрыю. Дзеля незалежнасьці Ўкраіны яны гатовыя, як мой бацька, патрываць яшчэ пяць год "кучмакратыі", яшчэ дзесяць год — "бакасакратыі", яшчэ пятнаццаць год "мабутакратыі" — абы толькі, як казалі за савецкім часам, "не было вайны".

І ня трэба быць прафэсійным палітолягам — дастаткова проста цьвяроза, без тэлевізійнага гіпнозу, зірнуць на сытуацыю, каб зразумець, што "камунякі" ўжо ніколі ня прыйдуць да ўлады, бо зусім ня тая роля адведзеная ім прэзыдэнцкай адміністрацыяй, і зусім не для таго іх так адчайна цягнуць у другі тур прапрэзыдэнцкія масмэдыі. Ды нават калі ўявіць сабе, што спсп. Сіманенка і Вітрэнка ўсё-ткі выйдуць за межы адведзеных ім роляў і здолеюць нацягнуць носа вынаходлівым лялькаводам з Банкіўскай — што яны будуць рабіць далей з 50-мільённым шчасьцем, якое неспадзявана зваліцца на галаву? Панясуць у зубах у Маскву — разам з экспартнымі галінамі прамысловасьці ды пасольствамі ў няшкодных для жыцьця краінах — назло ўсім сваім блізкім і далёкім сваякам? Ці, можа, рэанімуюць камуністычную ідэалёгію, якую іх папярэднікі ня здолелі ўсталяваць за 70 гадоў, маючы для гэтага непараўнальна лепшыя ўмовы? А можа, ня дай Бог, зробяць сёньняшнюю кандова-савецкую Ўкраіну яшчэ больш савецкай?

"Камуністычная пагроза" насамрэч зьяўляецца той дымавой завесай, за якой пануючая намэнклятура (прабачаюся, "алігархія") мае магчымасьць прыхоўваць сваю ўласную савецкасьць і крыптакамуністычнасьць.

Нашыя наіўныя нацыянал-дэмакраты, звыклыя да маніхейскага ўспрыманьня сьвету ў чорна-белай фарбах і адурэлыя ад ганебнае свабоды пасьля стагодзьдзяў бездзяржаўнасьці, падобна, да гэтага часу ня могуць усьвядоміць, што барацьба паміж "праўкраінскімі"("незалежніцкімі") і прамаскоўскімі ("імпэрскімі") сіламі даўно ўжо скончылася і што "прамаскоўскія» сілы ў сёньняшняй украінскай сытуацыі зьяўляюцца гэткай жа палітычнай маргіналіяй, як і "шчыра-украінскія"; тады як рэальнай сілай, сапраўдным гаспадаром краю ёсьць "крэольская" ("маларасійская") эліта — і "антыімпэрская", і "антыўкраінская" аднача́сова (у тым сэнсе, што ўкраінскасьць нашых нацыянал-дэмакратаў ёй, як кажуць, да лямпачкі). Ня маючы трывалае (нацыянальнае) ідэалёгіі, гэтая эліта мае толькі трывалыя інтарэсы, якія лёгка можна адстойваць і на Кіпры, і ў Бэльгіі, і ў далёкай Паname.



Малюнак Валадзіміра Касцьпук, «Крытыка»

Нешта спрасьціўшы і, дзеля нагляднасьці, схематызаваўшы, можна параўнаць гэтую маларасійскую эліту з лацінаамэрыканскай, якая заваявала сабе незалежнасьць зусім не на тое, каб братацца зь мясцовымі індзейцамі і будаваць для іх дзяржаву ацтэкаў, мая ці кечуа, — аднак і не на тое, каб пасьля зноў зьяднацца з Гішпаніяй ці Партугаліяй. У адным выпадку гэтая крэольская эліта можа індзейцаў ушчэнт вынішчыць, у іншым — дзеля барацьбы з мэтраполіяй і легітымізацыі сваёй улады — можа інкарпараваць індзейскіх правадыроў у свае шэрагі, прыняць іх сымболіку, абвясьціць мову кечуа дзяржаўнай і нават пачаць выкарыстоўваць яе з рытуальнымі мэтамі — але, зразумела, гэтая эліта ніколі ня будзе гаварыць на мове індзейцаў са сваімі "белымі" жонкамі, дзецьмі і ўнукамі і ўвогуле, ніколі ня будзе ўспрымаць увесь гэты тубыльскі антураж сур'ёзна.

А калі нехта лічыць, што Маларосія — гэта не Лацінская Амэрыка, хай зоймецца сацыялёгіяй і высьветліць, на якой мове размаўляюць зь дзецьмі і ўнукамі ўсе нашыя міністры і іхныя намесьнікі, і намесьнікі іхных намесьнікаў, і памочнікі іхных памочнікаў; на якой мове гавораць дома паслы і ўся дыпляматычная хеўра; усе нашыя генэралы, палкоўнікі і іншыя гаспада ахвіцэры; усе нашыя дырэктары прадпрыемстваў, крутыя бізнэсоўцы і яшчэ круцейшыя банкіры; усе нашыя вяршкі, уся сьмятанка і ўвесь бамонд. Якія вяршкі, такая, зразумела, і краіна. А калі індзейскія правадыры, кшталту спсп. Паўлычка, Жулынськага, Шчарбака і нават Дзюбы (украінскія пісьменьнікі. — Заўв. рэд.) пачынаюць рабіць выгляд, што яны зьяўляюцца часткай гэтых вяршкоў і што ўсе разам яны будуюць не крэольскую, а ўсё-ткі сваю, індзейскую дзяржаўнасьць, робіцца, шчыра кажучы, сумна.

Пад час апошняе тэлефоннае размовы бацька паведаміў мне, што атрымаў нарэшце запазычаную пэнсію — 55 грыўняў, капеечка да капеечкі. "Што ні кажы, а чым далей, тым лепш", — падсумаваў ён свой багацення жыцьцёвы досьвед. ■

*Пераклаў з украінскай Андрэй Скурко паводле часопіса "Крытыка".*

*Друкуецца са скарачэньнямі.*

спорт

# ЭЎРОПА-2000

У суботу прайшлі першыя сустрэчы адборачнага турніру да чэмпіянату Эўропы. 8 зборных пачалі розыгрыш чатырох апошніх квіткоў на паездку ў Бэльгію і Нідэрлянды. Першыя сустрэчы далі наступныя вынікі:

*Шатляндыя — Англія — 0:2*
*Славенія — Украіна — 2:1*
*Ізраіль — Данія — 0:5*
*Ірляндыя — Турцыя — 1:1*

Раней за астатніх на поле выйшлі ўдзельнікі брытанскага дэрбі: шатляндцы і ангельцы. Кожная сустрэча гэтых дзьвюх зборных яшчэ з канца XIX ст. мае палітычны падтэкст: хто мацнейшы — старэйшы ці малодшы брат. Праўда, цяпер малодшы брат багацейшы за старэйшага.

Гульня славенцаў са зборнай Украіны была самай прыгожай і напружанай. Пра напружанасьць сьведчыць колькасьць картак: 9 жоўтых і 2 чырвоныя. Абодва выдаленьні зарабілі украінцы ў другім тайме, калі тэмпэратура гульні дасягнула апагею. На другі тайм Украіна выйшла ў добрым настроі, павёўшы ў ліку пасьля фантастычна прыгожага ўдару Шаўчэнкі на 33 хвіліне. Але славенцы спачатку зраўнялі лік, а затым і забілі пераможны гол-цуд. Брамнік украінцаў Шаўкоўскі выбег да бакавой лініі і выбіў мяч проста на нагу Ачымавічу... Так украінцы ўскладнілі сабе жыцьцё перад сустрэчай у адказ у Кіеве і, напэўна, крыху сапсавалі настрой Кучму.

Не сакрэт, што кіеўскае «Дынама» і зборная Ўкраіны выкарыстоўваюцца Кучмам для павышэньня рэйтынгу. Футбол ва Ўкраіне сёньня — тая галіна дзейнасьці ўладаў, якую яны могуць занесьці сабе ў актыў. Ганаровы прэзыдэнт «Дынама» Георгі Суркіс зьяўляецца адначасова адным зь лідэраў сацыял-дэмакратычнай партыі Ўкраіны і актыўна падтрымлівае Кучму. Украінскія футбалісты ня так даўна амаль у поўным складзе таксама сталі сябрамі сацыял-дэмакратычнай партыі...

Заблытаная сытуацыя ў пары Ірляндыя — Турцыя. Ірляндцаў чакае цяжкое выпрабаваньне ў Турцыі: турэцкія футбалісты зробяць усё магчымае, каб падтрымаць сваю краіну ў цяжкі час. Нагадаем, што туркі перажылі на мінулым тыдні яшчэ адзін землятрус.

Андрэй Андрыеўскі

# МЭДЫЦЫНА ПА-БЕЛАРУСКУ

*Працяг са старонкі 1.*

Як заўсёды, калі гаворыць пабеларуску, шмат выступалі пра "Францішка Скарыну і разьвіцьцё мэдыцыны ў Беларусі" (праф.Казлоўскі зь віцебскае катэдры факультэцкае тэрапіі) або "Мэдычную адукацыю і спробу яе беларусізацыі ў 1942—44 гадах" (праф. Майсёнак з Інстытуту біяхіміі Акадэміі Навук). Пра сацыяльныя праблемы, пра заганы і шляхі рэфармаваньня беларускай сыстэмы падрыхтоўкі дактароўдык ня згадвалі, пра абарону сваіх правоў таксама.

Што, сапраўды беларускамоўныя здольныя думаць толькі пра сваю мову, а не пра справу, у чым іх часта абвінавачваюць?

Мова баліць, бо ёсьць чаму балець. Тое, што імпульс беларусізацыі мэдычнай асьветы ў 90-я гады быў слабейшы за аналягічны ў 20-х, даказвае колькасьць выдадзеных кніг на мэдычную тэматыку тады й цяпер. У 20—30-х іх выйшла ня менш за 25, цяпер — толькі 15. Прычым калі тады гэта былі збольшага падручнікі й намэнклятуры (ад першага выпуску *Nomina anatomica alboruthenica* 1926 г. да "Склероmaў верхніх і ніжніх дыхальных шляхоў" праф.Буракa і "Асноваў паталягічнай анатоміі" Цітова 1937 г.), дык цяпер да іх ліку арганізатары кніжнай выставы аднеслі й "Бабуля так лячыла...", выдадзеную "Навукай і тэхнікай" у 1992 годзе, што добра адлюстроўвае страту веры ў навуку ў пасьлячарнобыльскай Беларусі (і сярод лекараў, як ні прыкра, таксама. У 90-х, дарэчы, па-беларуску выйшлі дзьве кніжкі на актуальную радыялягічную тэматыку: "Прыродная радыёактыўнасьць" Гацко і Канаплі і "Асновы радыяцыйнай бясьпекі" Дарашкевіча й Гапановіча.)

І гэта пры тым, што да вайны мэдыцына заставалася ў Беларусі прывілеем жыдоў, расейцаў і палякаў (праф.Майсяёнак прывёў лічбу: да вайны беларусы складалі толькі 8% студэнтаў мэдінстытуту, што давала падставы для антысэміцкай прапаганды), а цяпер на дактароў вучацца збольшага беларусы.

Менавіта з патрабаваньняў студэнтаў пачалося ўвядзеньне беларускай мовы ў навучальны працэс у Менску й Горадні на пачатку 90-х. Дацэнт менскай катэдры мікрабіялёгіі Казак расказала, што працу над тэрмінalёгіяй па вірусалёгіі мусілі распачаць тады, калі адна з навучальных групаў, 10 чалавек, у 1992 годзе запатрабавала, каб выкладаньне вялося па-беларуску. Праўда, за ўсе 90-я такіх групаў на гэтай катэдры было толькі дзьве. Адвочна, бракуе студэнтаў-актывістаў, якія б не баяліся агітаваць і гуртаваць студэнтаў-беларусаў. Суполку Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў, якое і арганізавала гэтую канфэрэнцыю, цяпер узначальвае Андрэй Вітушка.

У чым прычына нешматлікасьці беларускамоўных абітурыентаў і студэнтаў? Апроч простай — палітыкі ўладаў, накіраванай на выцясьненьне беларускай мовы ў другасныя сфэры грамадзкага жыцьця, мабыць, ёсьць яшчэ адна, ускосная. Гэта маргіналізацыя і фальсыфікацыя сярэдняй беларускамоўнай адукацыі. Генрых Ільіч, загадчык катэдры мэдычнае ды біялягічнае фізікі Менскага мэдінстытуту, адзначыў, што галоўны тормаз для беларускамоўнага выкладаньня — тое, што не набіраецца групаў белмоўных студэнтаў. А колькасьць студэнтаў, што здаюць уступныя іспыты па фізыцы на белмове, скарацілася з 5—10% у 70-я гады да 0,5% летась (тры работы з 551-й). Гэта пры тым, што цяпер 25% школьнікаў намінальна навучаюцца па-беларуску проці 22% у сярэдзіне 80-х. Штука, мабыць, у тым, што гэтая беларускамоўнасьць часта фармальная (прычым як у горадзе, так і ў вёсцы), і па-беларуску вучаць толькі пачатковую школу ды гісторыю з геаграфіяй, а вось белмоўных настаўнікаў фізыкі ды фізкультуры вобмаль. У выніку выходзіць, што выбар белмоўнай адукацыі гарадзкімі бацькамі — гэта хутчэй сымбалічны акт, чым рэальнае далучэньне.

Пад маргіналізацыяй мы разумеем тое, што якасьць навучаньня ў беларускамоўных школах з году ў год пагаршаецца як у абсалютным вымеры, так і проці расейскамоўных школаў, дзе з году ў год пашыраецца дыфэрэнцыяцыя і спэцыялізацыя. Адбываецца гэта дзеля адпаведнай адміністрацыйнай, фінансавай і выдавецкай палітыкі дзяржавы.

Праблема для белмоўнай асьветы — адсутнасьць падручнікаў. Гэтак, падрыхтаваны падручнік па гісталёгіі 5 гадоў ляжыць у выдавецтве — дзяржава не дае грошай. Тое самае зь перакладзенымі на беларускую мову міжнароднымі намэнклятурамі. Нягледзячы на такі жорсткі ціск, дактары-выкладчыкі "хочуць мабілізаваць моладзь, каб яна скончыла тое, чаго ня скончылі мы" (праф. Арцішэўскі зь менскай катэдры гісталёгіі).

Беларускамоўныя мэдычныя дапаможнікі створаныя ня толькі ў Менску, але і ў Горадні. Пра гэта распавялі прафэсар гарадзенскае катэдры апэрацыйнае хірургіі Калтанюк і — пад воплескі залі — слаўны прафэсар Астроўскі, супраць якога ўлады ўчынілі крымінальную справу за беларускую дзейнасьць.

Вельмі цікава было паслухаць дактароў, якія гавораць з пацыентамі толькі па-беларуску. Псыхіятар аддзяленьня нэўрозаў 10-й менскай клінічнай бальніцы Ігар Сарокін распавёў, што яму псыхалягічна вельмі цяжка даўся пераход на беларускую. Ён казаў пра "страхі быць адрынутым і не зразумелым калегамі й пацыентамі" і "трымценьне ў душы". Цяпер ягоная беларуская мова "стварае своеасаблівую псыхатэрапэўтычную супольнасьць" і дапамагае ў мэдычнай практыцы. "Галоўнае, не пачынаць дыскусіяў з пацыентамі на пытаньні мовы й палітыкі".

Адзін з "матораў" канфэрэнцыі, лекар аддзяленьня інтэнсыўнай тэрапіі і рэанімацыі немаўлятаў 7-й КБ Менску Зьміцер Салошкін, лічыць патрэбным стварэньне Беларускага мэдычнага згуртаваньня, якое б займалася як лобінгам белмоўнай асьветы, так і абаронай прафэсійных правоў белмоўных мэдыкаў, а заадно сыстэматызацыяй тэрміналёгіі, абменам інфармацыяй.

Ясна, што такое згуртаваньне будзе мець посьпех толькі ў тым разе, калі яно будзе досыць шматлікім. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел каля 50 чалавек. Пэўна, гэта ня ўсе белмоўныя дактары. Гэтак, не было аўтараў «Кароткага расейска-беларускага фізіялягічнага слоўніка» Стасевіча й Варыёцкага, якія апошнім часам вярнуліся да мэдычнай практыкі.

Калі ж на такіх канфэрэнцыях па-беларуску стануць абмяркоўваць ня толькі філялягічныя, але найперш прафэсійныя і сацыяльныя пытаньні, гэта будзе адначасова і зарукай посьпеху, і сымптомам «здаровасьці» дыскусіі, і яе цікавасьці як для мэдыяў, так і для прафэсіяналаў.

Андрэй Дынько

дзе варта быць

## «Унія»

Доўгачаканы канцэрт мужчынскага камэрнага хору «Унія» ў менскім Клюбе Дзяржынскага! Беларускія і амэрыканскія народныя, а таксама бітлоўскія песьні. На біс — «Кукарача»! 24 лістапада а 19-й.

## Лекцыі

У Беларускім калегіюме (зала менскай бібліятэкі імя Янкі Купалы) у аўторак а 18.30 Адам Кшэміньскі з польскага часопіса «Polityka» прачытае лекцыю «Эўрапейская палітыка ў кантэксьце польска-нямецкіх дачыненьняў». Можа, што ў гэтай справе зьмянілася, і нашыя дзяды ўжо ня маюць рацыі, калі кажуць: «Чакайце, дзеткі, немец яшчэ прыйдзе»?

## Відэаклюб

20 лістапада ў 17.20 дзеці могуць паглядзець галівудзкі відэафільм «Меч у камені» ў перакладзе на беларускую мову. Сядзіба ТБМ. Менск, Румянцава 13.

## Суд

Мастака Алеся Пушкіна маюць судзіць у сераду 24 лістапада за тое, што ён 21 ліпеня вываліў гной з партрэтам першага прэзыдэнта, ягонымі гербам і сьцягам і плякатам з надпісам «за пяцігадовую плённую працу» пад дзьверы рэзыдэнцыі. За гэтую мастацкую акцыю яго вінавацяць у крымінальных злачынствах. Прыйсьці падтрымаць мастака можна ў Ленінскі суд Менску.

## Тэатар

На «Вольнай сцэне»:
16 лістапада — трагіфарс Б.Брэхта «Узьлёт Артура Ўі, які можна было спыніць»;
18, 19 — «Паваліўся нехта» — фольк-жарт У.Галубка ды Л.Родзевіча;
20 — фарс-абсурд Г.Ахтэрнбуша «Бот і яго шкарпэтка»;
21 — «Містэр розыгрыш» С.Кандрашова.

**У Купалаўскім:**
17 лістапада — «Паўлінка»;
18 — вадэвіль «Ажаніцца — не журыцца»;
19 — «Піраміда Хеопса» —драма Юрыя Ломаўцава;
20 — інтымны тэатар Еўсьцігнея Міровіча — дывэртысмэнт у трох карцінах;
21 — новая камэдыя А.Дзялендзіка «Смак яблыка»;
21-га ў 11.30 — «Ажаніцца — не журыцца».

**Малая сцэна:**
19 — камэдыя-рэтра Т.Уільямса "Crève-Cœur" («Разьбітае сэрца»);
20 — трагікамэдыя А.Фугарта «Тут жывуць людзі».

## Рок-н-рол

У аўторак 16 лістапада "на арэне Дзяржаўнага цырку" гурт *NeuroDubel* пакажа трохгадзінную праграму. "Дзюбэлі" адзначаюць уласнае дзесяцігодзьдзе і прэзэнтуюць новы альбом "Варсінкі і катышкі". Шырокай публіцы ўжо вядомыя дзьве песьні з альбому з кліпамі — "Самалёты" і "С празьнікам". Увесь альбом упершыню будзе агучаны ў цырку. Квіткі каштуюць ад 400 да 1400 тысячаў.

Таксама 16 лістапада Менск чакае нашэсьце замежных камандаў, якія пачнуць захоп гораду з клюбу «Рэактар». За 3,5—4 мільёны рублёў — гурты *Marduk* (Швэцыя), *Angel Corpse* (ЗША), ды *Enthroned* (Бэльгія).

21 лістапада ў канцэртнай залі «Менск» выступае гурт "Крыві". Што праўда, заля вялізная. Каб Вераніцы, Зьмітру ды Паўлу не было самотна — завітайце на імпрэзу. Не бясплатна, вядома, квіткі каштуюць ад 500 000 да 1 200 000.

22 лістапада расейскае турнэ гурта *Nazareth* закране і Менск: а 19 гадзіне ў Палацы спорту музыкі ладзяць свой канцэрт. Трэба выкласьці ад 2 зь лішкам да 11 мільёнаў.

## Фота

Зазірніце ў Музэй Сучаснага Выяўленчага Мастацтва, што на праспэкце Скарыны 47 (дзе раней была рэстарацыя "На Ростанях"). Да 25 лістапада там працуе фотавыстава "Нямеччына ад 1945. Погляд трох пакаленьняў адной сям'і". Немцы-"заходнікі" Вілі, Дытар і Рыта Клар прадстаўляюць фотарэпартаж зь Нямеччыны за апошнія пяцьдзясят гадоў. Файныя фотаздымкі, якія гавораць самі за сябе — яшчэ адна вэрсія міту пра птушку Фэнікс.

Алесь Кудрыцкі, Квят.

# «Ганэле» ня ганілі

Спэктакаль «Ганэле» менскага Тэатру лялек узяў пару прызоў на фэстывалі ў Торуні ў Польшчы: за рэжысуру Ляляўскага, музыку Кандрусевіча, акторскую ігру Цімохінай, за працу зь лялькай і спэцыяльны «За спэктакаль, што закранае істотныя праблемы жыцьця дзіцяці». «Ганэле» за саветаў ніколі ня ставілі.

# ГІСТОРЫЯ КАХАНЬНЯ

У мінулы аўторак Нямеччына сьвяткавала дзясятыя ўгодкі ўзьяднаньня. На адзін дзень краіна, здаецца, забылася на ўсе паўсталыя па ўзьяднаньні праблемы і зноў перажыла той эмацыйны ўздым, які захапіў быў яе ў 1989-м. Не зважаючы на кепскае надвор'е з дажджом, людзі сабраліся ў Бэрліне на пляцы перад Брандэнбурскай брамаю, згадвалі мінуўшчыну, слухалі "Скорпіёнз", Ліндэнбэрга ды аркестар з Растраповічам. Іншыя жывыя сымбалі той эпохі — Коль, Гарбачоў, Буш — бралі ўдзел у сьвяточных урачыстасьцях у рэйхстагу. Былыя канцлер, генсэк і прэзыдэнт таксама ўспаміналі той час. Хвалілі адзін аднаго.

Ды й для ўсяго сьвету сьвяткаваньне дзясятых угодкаў падзеньня Бэрлінскага муру — матар'яльнага сымбалю халоднай вайны — сталася добрай нагодай, каб азірнуцца назад, агледзецца на мінулае дзесяцігодзьдзе. Толькі памяць ды тэлекроніка здольныя пераадолець бездань паміж "цяпер" і "дзесяць гадоў таму". Сапраўды, цяжка паверыць у тое, што адбылося.

Дык жа ёсьць што адзначыць і нам. Дзесяць гадоў таму пачаўся наступ Эўропы на Беларусь. 9 лістапада 1989 году Эўропа пасунулася бліжэй да Беларусі на трыста кілямэтраў; за наступныя дзесяць гадоў яна падышла ўсутыч да нашай заходняй мяжы, абышла нас з паўночнага захаду, а тады пачала абыходзіць з поўдня. Беларусь трымаецца, як тая Брэсцкая крэпасьць. Адылі гісторыя дзьвюх Нямеччынаў (калі б краіны былі людзьмі, дык гэтая гісторыя была б дужа прыгожаю і драматычнай гісторыяй каханьня) яшчэ раз нагадвае нам, што ніколі ня трэба губляць веры. Ані ў 1949-м, калі ўтварыліся ФРГ і ГДР, ані ў 1961-м, калі камуністычная акупацыйная зона Бэрлінскім мурам конча аддзялілася ад дэмакратыі, ані нават у 1987-м, калі Гонэкер стаў першым усходненямецкім лідэрам, афіцыйна прынятым у Боне, Заходняя Нямеччына не прызнала грамадзянства ГДР, працягваючы ўважаць ейных жыхароў за сваіх, за такіх самых немцаў. А ўвосень 1989-га гэтыя немцы паказалі ўсім, што такое голас народу — Усходнюю Нямеччыну страсянула сапраўдная хваля дэманстрацыяў. Апошняй капкай, за чатыры дні да падзеньня муру, была паўмільённая акцыя ў Бэрліне з выступамі вядомых пісьменьнікаў, актораў, сьпевакоў, грамадзкіх дзеячоў.

Беларусь сёлета таксама адзначала юбілей узьяднаньня заходняй і ўсходняй сваіх частак. Наш юбілей дужа розьніцца ад цяперашняга нямецкага — быў трохі сумны, прынамсі, неадназначны, як і самое ўзьяднаньне ў савецкім лягеры. Больш за ўсё запомніўся непрыстойна шчыры пацалунак селяніна й чырвонаармейца на вядомым старым плякаце; адчуваньня нацыянальнага сьвята ён чамусьці не выклікаў.

Вецер перамен заблукаў у ваколіцах Беларусі. Але мусім верыць, што ён вернецца, як вярнуўся дзесяць гадоў таму на нямецкую зямлю. Сапраўднае наша сьвята яшчэ наперадзе — узьяднаньне з Эўропай.

Алесь Пяткевіч



Уладзімер Арлоў пакідае аўтограф на сваёй кнізе

## Урок гісторыі

9 лістапада ў віленскім Пэдагагічным унівэрсытэце прайшла прэзэнтацыя новай беларускай кнігі. Гэта доўгачаканы плён працы двух аўтараў — Уладзімера Арлова і Генадзя Сагановіча — «10 вякоў беларускай гісторыі».

На імпрэзу сабралася багата народу. Найперш — віленскія студэнты-беларусісты, а таксама вучні старэйшых клясаў з тутэйшае школы імя Францішка Скарыны. Усе яны слухалі Уладзімера Арлова.

...Барадаты пісьменьнік жмурыўся ад зыркіх тэлевізійных лямпаў. За вакном цякла рака Вяльля. А далёка, за рачною выгібаю, у лістападаўскай смузе патанала сіняя гара з Гедымінавым замкам.

## На Малой Пагулянцы

У мінулы аўторак, 9 лістапада, у Вільні адкрылася новая выстава братоў Покладаў. Сяргей і Алесь выставілі блізу тыя самыя працы, што нядаўна паказвалі ў Менску.

Сяргей Поклад выставіў працы з двух сваіх апошніх цыкляў, «музычнага» і «вулічнага». «Музычны» абуджае згадкі пра Шагала. «Вулічны» цалкам прысьвечаны Вільні. Хоць у ім цяпер і няма гэтак пазнавальных эрзацных аб'ектаў, а толькі сьвятло віленскіх двароў ды завулкаў. Алесь Поклад пачуваецца ўпэўнена ў жанры караценькіх прыпавесьцяў — пра віленчукоў, пра менчукоў, пра жыцьцё. Пэрсанажы ягоных твораў пастаўленыя ў сытуацыі па-за часам і, зрэшты, па-за прастораю. Але любы глядач пазнае ў іх часьцінкі ўласнага досьведу.

Выстава экспануецца ў галерэі «Amatininku», што на Малой Пагулянцы, вуліцы, якая носіць цяпер імя Кастуся Каліноўскага.

## Мужчынская праца

10 лістапада ў вядомай віленскай галерэі «Znad Wilii» адчынілася чарговая выстава беларускага мастацтва. Гэтым разам — пэрсанальная экспазыцыя Юр'я Якавенкі. Мастак жыве й працуе ў Горадні, а таму ягоная творчасьць пакуль мала знаёмая менскай публіцы.

Юры Якавенка творыць у рэдкай цяпер тэхніцы мэцатыны (mezzotinto). Гэткую тэхніку рыцінаў, мала што італьянская назва, вымысьліў у XVIII ст. нямецкі графік Зыген. Спачатку мядзяны ліст апрацоўваецца кіслатою і набывае шурпатую паверхню, якае дае глыбокі, бархацісты тон пры друку. Затым мастак алоўкам і іголкаю робіць на медзі малюнак. Пасьля тое, што мусіць быць сьветлым, асьцярожна чысьціцца, прасуецца й паліруецца. Адным словам, няпроста. «Гэта сапраўдная мужчынская работа. Для моцных і цярплівых. Для майстроў», — сказаў падчас адкрыцьця выставы Юры Якавенка.

На адкрыцьці выставы прысутнічалі беларускія й польскія дыпляматы, тутэйшыя мастакі і замежныя журналісты. «Адразу відаць — беларуская школа», — дзяліліся думкамі гледачы. Яны мелі на ўвазе, што плойма вобразаў і цытатаў, зь якіх тчэцца мастацтва Якавенкі, можа нагадаць нам і іншых вялікіх беларускіх фантазёраў — Селяшчука, Славука ці Батальёнка. Хоць у адным ён апярэдзіў іх пэўна — у найлепшым штукарстве мэцатыны.



Юры Якавенка «Гадзіньнік»

Ліцьвін

# «ЗОНЬНІКІ»

Прывід падзелу Нямеччыны ня зьнік канчаткова, і збылося прадказаньне (ці пагроза?) Гонэкера: «Вы яшчэ ўспомніце пра ГДР». Дарэчы, ён сказаў гэта амаль што перад сьмерцю — маўляў, «я вярнуся».

Апошнім часам зьяўляюцца ксэнафобскія што да Ўсходу кніжкі заходніх немцаў. Яскравая назва «Працаваць як за Гонэкерам. Жыць як за Колем» утрымлівае ў сабе асноўны закід усходнікам — пра гультайства, якое, паводле згаданай кніжкі, было дзяржаўным ладам ГДР. І пачалося ўсё, сьцьвярджае аўтар, з 17 чэрвеня 1953 г. — шанаванай немцамі даты антысталінскага народнага паўстаньня, якое, згодна з аўтарам, было напалову бунтам гультаёў, пасьля якога ім зьменшылі нормы выпрацоўкі і пачалося раскладаньне нямецкага духу любові да працы. Гэта прывяло да складаньня асаблівага тыпу чалавека — аналягу нашага homo soveticus. ГДР звалі «зонай», і таму цяпер пра ўсходніх немцаў кажуць — they are zonies. Менавіта так, па-ангельску, з намёкам на zombies.

«Калі б Гітлер нарадзіўся ня ў Аўстрыі, дык гэта адбылося б тут, ва Ўсходняй Нямеччыне», — кажуць на Захадзе. Заходніх немцаў палохае таксама расізм усходнікаў, бо на Ўсходзе моцныя пазыцыі маюць правыя экстрэмісты — пра што сьведчыць статыстыка нападаў на іншаземцаў. Варта заўважыць, што і ў былой ГДР ёсьць людзі, што смуткуюць па старой краіне — сярод беспрацоўных такіх, паводле апытаньняў, кожны чацьверты. Усюды ёсьць людзі, якім кілбаса даражэйшая за волю.

Сяргей Радштэйн

***У Менску ў залі ІВВ 9 лістапада адбылася прэм'ера дакумэнтальнага фільму «Калі ўпаў Мур» рэжысэра Гюнтэра Шольца. Гэта другая эўрапейская прэм'ера фільму пасьля паказу на Бэрлінскім міжнародным фэстывалі дакумэнтальнага кіно 4 лістапада. Фільм — фээрыя вызваленьня.***

# КАЛІ АБВАЛІЦЦА ПЛАЦІНА

Ніхто ня можа заўважыць першай дзірачкі ў плаціне. Толькі калі струмені пачынаюць біць з усіх бакоў, людзі кідаюцца ў спадзеве залатаць дзіры, спыніць наступ магутнай плыні... Кіраўніцтву колішняй савецкай Нямеччыны хапіла розуму ня кідацца на плаціну, якая пачала развальвацца. Таму пяцьдзясят гадзінаў, на працягу якіх разбураўся Бэрлінскі мур, мінулі без чалавечых ахвяраў.

Гэта не эсэ і не баляда. Толькі факты, якія, складзеныя, загучалі як песьня. Сябра эндээраўскага палітбюро Шабоўскі на прэсканфэрэнцыі «ляпнуў», што «з дадзенага моманту мяжа з Заходнім Бэрлінам адчыненая», маючы на ўвазе, што ўводзяцца новыя, больш лібэральныя правілы выезду з краіны... Бэрлінцы пачулі навіну па каналах заходніх TV, калі рыхтаваліся да сну. Была субота. Спачатку людзей амаль не было ля Муру. Перад КПП тусаваліся невялікія купкі цікаўнай моладзі. Ці памятаюць зараз у Нямеччыне імя таго афіцэра-памежніка, які на свой страх і рызыку першы падняў шлягбаўм? Мяжу перасекла першая група людзей, найперш — журналістаў. І тады бэрлінцы павалілі бясконцай плыньню з абодвух Бэрлінаў. Калі б памежнікі згодна з інструкцыямі адкрылі агонь...

У дзяцінстве я заўжды зьдзіўляюся сцэнам зь фільмаў, калі пара дзясяткаў жаўнераў канваявалі некалькі тысячаў палонных. А каб усе разам пабеглі? Большасьць абавязкова вызвалілася б, а так — мала хто выжываў у лягеры праз холад і галадуху. Галоўнае слова — разам.

«О, любая Ўсходняя Нямеччына! — сьпяваў нямецкі бард Дытар Калька. — Цябе моцна ахоўваюць. Нават уначы каля тваіго ложку стаяць хлапцы з штых-нажамі... О, любая Ўсходняя Нямеччына, ты яшчэ не старая, зрабі нешта такое, каб я цябе захацеў!» Мур упаў, бо гэтага доўга і моцна хацелі людзі.

Можа было б варта, каб фільм спачатку паглядзелі сёньняшнія беларускія «вэртыкалі»? Першыя асобы тагачаснай Усходняй Нямеччыны дагэтуль не разумеюць, як усё магло адбыцца. А падставаў для самаўпэўненасьці ў іх было ў сто разоў болей, чым у нашага «кіраўніцтва». НДР стварыла ўзорны сацыялізм зь «нямецкім парадкам»... Зрэшты, беларускі «бэрлінскі мур» нябачны. Ён жыве ў галовах людзей. Таму разбурыць яго значна цяжэй. Але для гэтага пагатоў трэба быць разам.

Севярын Квяткоўскі

# БЕЛАРУСЬ, ЧАЧЭНІЯ, ПАКІСТАН...

У Пакістане адначасова прагрымелі 6 выбухаў. Выбухоўка была закладзеная ля амэрыканскіх прадстаўніцтваў. Талібы? Усама бэн Ладэн? Пакістанскія ісламісты?

Апошнім часам амэрыканцы робяць усё, каб іх не абвінавацілі ў падвойных стандартах. Адсюль тры апошнія заявы спадарыні Олбрайт — пра Беларусь, Чачэнію і Пакістан. ЗША адмаўляюцца ўспрымаць любыя проціпраўныя дзеяньні ды безумоўна падтрымліваюць дэмакратыю. Зь першымі дзьвюма краінамі ўсё ясна, але Пакістан — хаўрусьнік Амэрыкі, хоць і ня дужа паслухмяны, ядзерная дзяржава з насельніцтвам пад 125 мільёнаў. Апошнія падзеі ў гэтай краіне й выклікалі заклапочанасьць ЗША. Уся гісторыя Пакістану працятая ўзаемнымі зьвінавачаньнямі ў карупцыі, а ўсе путчы — ад першага (1958) і да апошняга — спрабавалі апраўдаць захаваньнем стабільнасьці, пад якой разумеецца пабудова эўрапеізаванага грамадзтва. У гэтым кантэксьце цікавыя словы генэрала Мушарафа: "Нашыя мерапрыемствы — гэта толькі іншы шлях да дэмакратыі". Амэрыканцы апынуліся перад дылемай: ці то Мушараф топча стандарты дэмакратыі, ці то ратуе дэмакратычныя прынцыпы ад паступовага разьяданьня ісламскім фундамэнталізмам.

Пачвара, што пагражае Пакістану, расла шмат гадоў. Пад пачварай пакістанцы разумеюць Талібан: ня толькі той, што ў Аўганістане, але й мясцовых фанатыкаў-ісламістаў.

Усё пачалося з індыйскай правінцыі Кашмір. Папраўдзе, яна мусіць належаць Пакістану, і тое, што ў частцы яе пануюць



Ля амэрыканскай амбасады ў Ісламабадзе

Фота АР

індыйцы, дужа злуе пакістанцаў. Ісламісты сталі зброяй гэтае злосьці. Грунтуючыся на тым, што пакістанскія ракеты (створаныя пры дапамозе кітайцаў і паўночнакарэйцаў) лепшыя за індыйскія, мінулай вясною Пакістан наслаў у Кашмір партызанаў, якімі, дарэчы, і асабіста кіраваў сёньняшні галоўны путчыст.

Пра ўплыў пакістанскіх ісламістаў добра сьведчыць той факт, што кіраўнік пакістанскай службы вайсковай разьведкі, які ў ліпені выступаў з закрытым дакладам пра фундамэнталісцкую пагрозу ў спэцыяльным камітэце амэрыканскага Сэнату, цяпер сядзіць у турме ў Ісламабадзе.

Сёньня Вашынгтон баіцца генэрала Мушарафа, дэсантніка на троне. Бо ў Індыі таксама ёсьць ядзерная зброя. Амэрыка баіцца за долю міру ў сьвеце, за які ўзяла на сябе адказнасьць...

Сяргей Радштэйн



Малюнак Валадзіміра Кастыркі, «Крытыка»

украінскі нумар «НН»

# TERRA INCOGNITA

*Працяг са старонкі 1.*

Украіна заўсёды выказвала болей цікавасьці да Беларусі, чым наадварот — Беларусь да Ўкраіны. Нават сёньняшнія ўкраінскія прэзыдэнцкія выбары маюць у Беларусі ня большы розгалас і выклікаюць ня большую цікавасьць, чым выбары ў Аргентыне або сытуацыя ў Пакістане. Прынамсі, пішуць у нас пра тое гэтак сама адстаронена, не адчуваючы, што на поўдні вырашаецца нешта жыцьцёва важнае і для нас.

Усе нашыя веды пра Ўкраіну мы атрымліваем як правіла з расейскіх крыніцаў. Лішне казаць, што расейскія пісьменьнікі, навукоўцы, журналісты зусім ня маюць на мэце высьвятляць, у чым нашая роднасьць. Гэтым могуць займацца толькі беларусы і ўкраінцы самі, надзеленыя самастойнай воляю. Паказальна і тое, што нашу з украінцамі роднасьць ніхто ня тое што не разьдзімае, як гэта адбываецца ў выпадку з расейцамі, але й не дасьледуе.

Высновы з усяго сказанага мала суцешныя. Украіны, па вялікім рахунку, у жыцьці беларускае нацыі не існуе. Дый гэтыя тэзісы нагадваюць коўзаньне па цаліку. Выглядае, што якраз Украіна хутчэй дагукаецца Беларусі, а не наадварот. Большая мусіць выцягваць меншую з багны. Зрэшты, так і было спрадвеку. Дакладней, з часоў станаўленьня нацыянальнае ідэі ў мінулым стагодзьдзі. Менавіта ў нас раскідаліся ўкраінскія або русінскія газэткі для сялянаў. Менавіта ва Ўкраіне лекаваўся ад ранаў паўстанец Багушэвіч. І калі спадарыня Ланская ў 80-я гады XIX ст. выдала свой раман-выкрыцьцё пра акупацыю Беларусі пад вымоўнаю назвай «Обруситель», дык ужо праз два гады гэты твор быў растыражаваны па-ўкраінску. Па-беларуску яго няма і дагэтуль.

Падводзячы рысу, я знаходжу адзінае азначэньне, якое адрозьнівае ўкраінцаў ад іншых нашых суседзяў у дачыненьнях з намі — гэта адсутнасьць карысьлівых матываў. За ўсе часы Ўкраіна на нас не збагацела і Ўкраіна нас разумела. А ці шмат нам дала яна ў параўнаньні зь іншымі — мы не лічылі.

**Сяргей Паўлоўскі**

# КУЧМА — БЕЛАРУС

Сяргей ШУПА

Прэзыдэнцкія выбары ва Ўкраіне, здавалася б, ня маюць дачыненьня да беларускага культурнага кантэксту. Аднак пару тыдняў таму, напярэдадні першага туру, адбылася адна падзея, якая мусіла б знайсьці шырокі водгук у Беларусі.

А падзея гэтая — рэпартаж расейскага тэлеканалу НТВ з роднай вёскі Леаніда Кучмы. Пад час гутарак з аднавяскоўцамі ўкраінскага прэзыдэнта выявіўся яскравы факт — усе ўдзельнікі сюжэту гаварылі па-беларуску. Гэта была чыстая — без украінскіх або расейскіх дамешак — беларуская мова. Ясная справа, што ні аўтары сюжэту, ні расейскія гледачы не зьвярнулі на гэты нюанс ніякае ўвагі — нічога дзіўнага, што ва Ўкраіне гавораць не па-расейску. Магчыма, што і ўкраінскія гледачы паставіліся да гэтага спакойна — мала якія бываюць украінскія дыялекты.

Тым часам паўночная Чарнігаўшчына — колішняя Северская зямля — усімі моваведамі заўсёды залучалася ў беларускі моўны абшар. Яна належыць да зоны сярэднебеларускіх гаворак, што, дарэчы, выразна чулася ў рэпартажы. Аўтары сюжэту зазначалі, што зусім побач тут — мяжа з Расеяй. Цалкам магчыма, што калі заехаць за тую мяжу, можна будзе пачуць тую самую мову. Пра блізкасьць беларускай мяжы НТВ і не прыгадвала — для расейцаў гэта ўжо нібы й не мяжа...

Кучмавы аднавяскоўцы амаль аднагалосна зьбіраліся галасаваць за земляка — нават тыя, хто наракаў на цяперашняе жыцьцё й парадкі. Адзіным заўзятым апанэнтам Кучмы і агітатарам за ягонага суперніка Сіманенку быў мясцовы камуніст. Ён быў і адзіны, хто гаварыў не па-беларуску.

Што ж нам з усяго таго? Ды, бадай, нічога. Можна цешыць сябе думкай, што Леанід Кучма нарадзіўся і нейкую частку жыцьця пражыў у беларускамоўным асяродзьдзі — можа й сам нейкі час гаварыў толькі па-беларуску, бо йнакш ня ўмеў. Укладальнікі сьпісаў нашых славутых суродзічаў могуць сьмела прыпісаць ягонае прозьвішча туды, дзе ўжо Міхась Глінка й Тодар Дастаеўскі, Адам Міцкевіч і Гіём Апалінэр, Айзэк Азімаў і Ўэйн Грэцкі. Прынамсі цяпер Леанід Кучма будзе заўсёды выклікаць у мяне беларускія асацыяцыі.

Украінцы, бывае, пытаюцца ў нас — канфідэнцыйна, як пра нешта інтымнае і не зусім прыстойнае: «А гэты, ваш, Лукашэнко, выпадкам не ..?» Слова «ўкраінец» нават не вымаўляецца — страшна і сорамна, калі раптам праўда. «Ня бойцеся, гэты — наш, чый жа яшчэ...» — супакойваем мы. А цяпер во можам яшчэ й сказаць: «А гэты ваш — дык ён таксама наш. Але за гэтага хоць ня так сорамна...» ■

Зьміцер БАРТОСІК

# ПЕРШАЯ ЗАГРАНІЦА

Для гомельскіх дзяцей 70-х першай заграніцай, дзе ўсё ня так, а цікавей і лепей, была Украіна. За якія сто кілямэтраў ад сумнага Гомеля знаходзіўся Чарнігаў, куды нас вазілі на экскурсіі і дзе мы рукамі краналіся муроў XI стагодзьдзя. Яшчэ Ўкраіна асацыявалася з Крымам, морам і садавінай. З Украіны нашыя бацькі прывозілі кілбасы й кіеўскія торты. Чамусьці й бліжэйшаю сталіцаю — і па адлегласьці, і па разуменьні сталічнасьці — быў Кіеў. Тым больш, туды двойчы на дзень адпраўляліся крылатыя цеплаходы. Масква была далёка ў тэлевізары. Мы ведалі, што афіцыйна наша сталіца Менск, але для спакушэньня цікавасьці аднае афіцыйнасьці замала. Таму факт, што адзіны гомельскі помнік несавецкаму дзеячу быў помнік Багдану Хмяльніцкаму, успрымаўся намі цалкам натуральна. Крыху пазьней, калі наш сусьвет выйшаў за савецкія межы, мы даведаліся пра ўкраінскіх нацыяналістаў. І ўкраінская мова, злоўленая на БіБіСі, была для нас антысавецкаю моваю. Зноў жа, у адрозьненьне ад мовы беларускага тэлебачаньня. Нават украінскія дзяўчыны лічыліся ў нас эталёнам жаноцкай прыгажосьці. А вобраз тупога скваплівага хахла, які любіць гарылку й сала, у нас не прыжываўся.


Ілюстрацыя да падручніка для 5-й клясы «Гісторыя Ўкраіны» да разьдзелу «Украінскія землі ў складзе Літвы і пад уладаю Польшчы»

Словам, мы зь сябрамі й думкі не маглі дапусьціць пра тое, што ва Ўкраіне можа хоць штосьці быць горшым за нашае. Праўда пра ролю Хмяльніцкага ў гомельскай гісторыі, пра гомельскую дырэкторыю, пра Хатынь прыйдзе крыху пазьней. А тады мы шчыра радаваліся вынікам іхнага незалежніцкага рэфэрэндуму, віталі іхны выхад з рублёвай зоны і, магчыма падсьвядома, зайздросьцілі ім.

А пасьля ў Гомелі зьявіўся «праспэкт Краўчука». Так гомельцы абазвалі гандлёвыя рады ад вакзалу да рынку, дзе нашыя паўднёвыя суседзі гандлявалі з ранку да вечара, з радасьцю прымаючы нашыя несапраўдныя грошы. З краіны дастатку Ўкраіна ў вачах гомельскіх пралетараўператваралася ў краіну-жабрачку. «Праспэкт Краўчука» парушыў, здавалася, лягічнае правіла, што рост дабрабыту й цывілізаванасьці залежыць ад росту нацыянальнай сьвядомасьці.

Украіна ўвесь гэты час успрымалася намі як выпадковая і менш разьвітая суседка. Аднак нездарма бел-чырвона-белы сьцяг лунаў на ўкраінскім сэктары пад час футбольнага матчу ў Лужніках. Мне здаецца, вялікая гульня толькі распачынаецца. Нам яшчэ ня раз прыйдзецца азірацца на краіну, дзе мы так любілі адпачываць. ■

апытаньне «НН»

# «ШТО ВАС ЗЬВЯЗВАЕ З УКРАІНАЙ?»

Гісторык **Віталь Скалабан** у адказ на гэтае пытаньне адразу пажаліўся, што ведае нашу паўднёвую суседку вельмі кепска. Аднак Украіна для яго — прадмет актыўных навуковых дасьледаваньняў. Спадар Скалабан займаецца вывучэньнем сувязяў БНР і Ўкраінскай Народнай Рэспублікі, дасьледуе кіеўскі перыяд жыцьця беларускага гісторыка Мітрафана Даўнар-Запольскага, лёс Усевалада Фальскага, беларускага тэатральнага і палітычнага дзеяча, які скончыўся ва Ўкраіне, біяграфію настаўніка Якуба Коласа Фядота Кудрынскага, які паходзіў з Украіны.

Журналістку **Тацяну Сьнітко** з Украінай зьвязвае самае лепшае ў ейным жыцьці. Гэта сяброўскія ды сваяцкія дачыненьні. Другі муж Тацянінай бабкі паходзіў з-пад Харкава, і менавіта ён паўплываў на яе найбольш. Што адметнага ва ўкраінскім мысьленьні? «Яны вельмі вясёлыя і экспрэсіўныя. Можа і праўда, што для ўсіх славянаў уласьцівая лірычнасьць характару, але менавіта ў беларусаў і ўкраінцаў яна праяўляецца найбольш выразна. А яшчэ нас яднае пэўная глыбока схаваная туга», — лічыць Тацяна Сьнітко.

**Уладзімер Берберaў**, удзельнік музычнага праекту «Ліцьвіны», чый першы сур'ёзны выступ адбыўся менавіта ў Кіеве, кажа, што для яго Ўкраіна — гэта перш-наперш грунтоўная музычная творчасьць. Ён мяркуе, што ніякія не расейцы, а менавіта ўкраінцы — адзіныя, хто на постсавецкай прасторы стварае цікавую, зьмястоўную музыку, не папсу.

Украінская мова і сам ейны носьбіт — украінскі народ — вельмі падабаюцца ўніяцкаму сьвятару айцу **Андрэю Абламейку**, які пэўны час вучыўся ў гэтай дзяржаве, і тамсама, ва Ўкраіне, быў высьвечаны на дыякана. «Безумоўна, паміж намі існуе адчувальная розьніца: мы — больш паўночна-заходнія, а ўкраінцы — паўднёва-ўсходнія славяне», — кажа сьвятар.

На жаль, для большай часткі беларускай моладзі прымаўка «Ў гародзе — бузіна, а ў Кіеве — дзядзька» трансфармавалася ў «На базары — танная ўкраінская гарэлка ды алей, а дзядзька ці цётка — у Крыме або Данбасе». Некаторыя, што праўда, згадваюць яшчэ Гогаля з Тарасам Бульбам ці анэкдоты пра сала ды піва з маскалямі. І ўсё. Больш нічога іх з Украінай ня зьвязвае, а ўкраінская палітыка для маладых людзей такая ж далёкая, як і беларуская. Толькі адзін са студэнтаў адзначыў, што яму б вельмі не хацелася, каб прозьвішча наступнага ўкраінскага прэзыдэнта рыфмавалася з прозьвішчам Лукашэнкі, бо ў нас, маўляў, толькі дзесяць мільёнаў гаруюць, а ўкраінцаў — пяцьдзесят.

**Анатоль Прасаловіч**




*Працяг са старонкі 1.*

*Малюнак Юр'я Коха, з кнігі «Легенды Львова»*

## Мінецца гора?

Жыхары гэтых месцаў раптоўна ператварыліся з “маларосаў” у “беларусаў” пад час усяпольскага перапісу насельніцтва 1921 году, калі польскія ўлады з ўсяе моцы імкнуліся перамагчы ў неабвешчанай вайне супраць украінцаў на “крэсах всходніх” сваёй дзяржавы.

Мая бабуля (дай Бог ёй здароўіца), колькі сябе памятаю, усялякія выбары камэнтавала фразай: “Мынэцця лыхо, мынэцця горэ, як дэв’ятнаццятка поборэ”, — і іранічна хітала галавой. А рэч у тым, што пад такім лёзунгам ішоў на выбары ў польскі сэйм украінскі Сельроб у нашых месцах. Галасавалі тады за партыі, і нумар украінскага сьпісу быў 19. “Дзевятнаццатка” тады сапраўды перамагла. Гора вось не мінулася.

Амаль у кожнай вёсцы меліся перад вайной сябры “Просвіты” — украінскага культурніцка-адукацыйнага таварыства, якія шчыравалі дзеля таго, каб узьняць узровень жыцьця людзей на гэтых балотных абшарах, а таксама арганізоўвалі бібліятэкі, ставілі спэктаклі, ладзілі канцэрты... З пажоўклых фотак таго часу глядзяць прыгожыя хлопцы і дзяўчаты — у народных строях пасьля імпрэзы, у элеганцкіх гальштуках ды камізэльках, у каралях і хустачках, павязаных пад падбародзьдзем, з роварамі і на конях — гэтымі тагачаснымі знакамі дастатку... Гэта настаўнікі, фэльчары, сяляне-“господарі”, камэрсанты. Людзі міжваеннага гарту. Амаль усіх потым зьнішчылі — немцы, саветы. Тыя, хто здолелі ўцячы, як правіла, добра ўладкоўваліся ў Амэрыцы, Аўстраліі, Канадзе — працы не баяліся. Але шляху дадому для іх не было.

Адна сьмерць — гэта Сьмерць, тысяча сьмярцей — статыстыка. З гэтага сьсечанага лесу, паміж спарахнелых камлёў паўставаў кволы падлесак нашага пакаленьня. Колькі бачна, не засталося вакол ніводнага старога дрэва — нам няма было ў каго спытацца, зь якога мы кораню.

Беларусы, што так многа пацярпелі ад афіцыйнага вялікадзяржаўнага шавінізму тых часоў, у адносінах да ўкраінцаў Берасьцейшчыны і самі павялі сябе несправядліва, робячы выгляд, што нават праблемы такой не існуе. Няспраўядлівасьць жа гэтая бумэрангам (і як балюча!) ударыла па саміх беларусах. Спробы беларусізацыі гэтага краю сваёй маральнасьцю нічым не адрозьніваліся ад спробаў русіфікацыі ды палянізацыі. Такія нечаканыя ды горкія вынікі травеньскага рэфэрэндуму 95-га году што да Берасьцейскай вобласьці зусім зразумелыя — а тут за Лукашэнкавы прапановы галасавала амаль столькі ж, як на Магілёўшчыне. Адна зь мясцовых настаўніц сельскай школы, стаж работы якой больш за 40 гадоў, на пытаньне, як яна тады галасавала, адказала: “Як і ўсе дурні. Вось і разумею, што ў дзяржаве Беларусь дзеці павінны вучыцца па-беларуску, але як успомню, як яны пыкаюць-мыкаюць...” А як бы яна прагаласавала, калі б дзеці ў яе класе вучыліся на той мове, на якой яны гаворыць і дома? Ці гэта рытарычнае пытаньне?

## Калі заплюшчыць вочы...

За ўсю гісторыю Берасьцейская вобласьць толькі непрацяглы час была ў складзе Ўкраіны (УНР) — у 1918 годзе, а затым у 1941—44 у складзе райхскамісарыяту “Ўкраіна”...

Польшча і саветы кожны пасвойму вырашалі праблему памежных украінцаў.

У сорак шостым годзе ўкраінцам, якія спрадвеку жылі на левым беразе Буга і цяпер апынуліся ў Польшчы, было прапанавана “рэпатрыявацца” ў Савецкі Саюз. Сялян з Кастамалотаў, дзе жыла сям’я дзеда, вывезьлі пад Адэсу, у стэп, які трэ было асвойваць. Там панаваў цар-голад. Каб неяк яго падмануць, бацька, якому тады было восем, разам зь сябрамі бег у лесапаласу і еў гронкі белай акацыі...

Аднавяскоўцы выправілі дзеда ў Кіеў да Хрушчова — прасіцца назад. Той даў дазвол. “Праезд па тэрыторыі Ўкраіны я вам гарантую, — сказаў, паводле сямейнай легенды, Хрушчоў. — Вас ніхто не зачэпіць. А далей — дабірайцеся, як самі сабе знаеце”...

Калі заплюшчу вочы, бачу, як па замуравелай дарозе, упрэгшы ў падводы кароваў, вяртаюцца дадому зь бязводнага пададэскага стэпу кастамалоцкія аднавяскоўцы. Хаваючыся ад міліцыі і чырвонаармейцаў, каб не завярнулі назад, хаваючыся ад аунаўцаў, што шасталі па лясох і маглі адабраць тое з майна, што яшчэ засталося пасьля пераездаў... Ехалі, дакладней, ішлі, ужо месяц. На другі дзень Тройцы падарожнікі былі ў глухой вёсачцы Башні каля Янова, дзе пуставала некалькі хат — іх гаспадароў, палякаў, “рэпатрыявалі” ў Польшчу. Вырашылі застацца тут, мяркуючы пераэжыць зіму, а тады дабірацца далей.

Але так ня стала.

У той час, як кастамалотцы садзілі бульбу пазычанымі ў башнян лупінамі, саветы ўзводзілі па Бугу жалезную агароджу — мяжу, а палякі праводзілі апэрацыю “Вісла”. Як потым паведамілі аднавяскоўцы, у Кастамалотах раптоўна зьявіліся польскія жалнеры і ў гадзіну вывезьлі ўсіх, хто тут яшчэ заставаўся, у Альштынскае ваяводзтва, адкуль, у сваю чаргу, “рэпатрыявалі” немцаў... Мая стрыечная бабуля пекла на той час хлеб, дык нават не дазволілі дачакацца, пакуль сьпячэцца, пагналі, у чым была, на падводы...

## За нашу й вашу...

Калі б беларускія нацыяналісты былі больш прадбачлівыя, дык не аспрэчвалі б відавочных фактаў (“У мяне ў Маларыце жыве цесьць. Там ніхто не гаворыць па-ўкраінску!”), а імкнуліся б набыць сабе саюзьнікаў (у той жа Маларыце). Контрапрадуктыўна гаварыць пра нейкую маргінальнасьць берасьцейцаў, што зараз надзвычай модна сярод, так бы мовіць, пэўных беларускіх колаў. Бо прайшло зусім нямнога часу, як гэтыя “маргіналы” давалі такога перцу НКВД, а потым МГБ, што тут ёсьць чаму павучыцца “немаргіналам” (згодна з архіўнымі зьвесткамі, на тэрыторыі сучаснай Беларусі дзейнічала каля 300 груп УПА лікам кожная ад 10 да 500 чалавек).

Да ідэі Беларускага Дому, Беларускай Дзяржавы, да ідэі супрацьстаяньня русіфікацыі ўкраінцы Берасьцейшчыны могуць дайсьці толькі праз усьведамленьне сваіх каранёў, праз вяртаньне да ўкраінскасьці. Іншага ня дадзена.

У Беларусі шмат людзей, якім я хацела б сказаць: берасьцейскія ўкраінцы — ня злобныя сэпаратысты, якія сьпяць і бачаць, як бы адарваць ад Беларусі кавалак. Не. Проста мы трохі больш багатыя за вас: у нас дзьве Радзімы, як бывае ў чалавека дзьве маці. Адна — далёкая, амаль невядомая, амаль містычная, якая згубіла дзіця адразу пасьля таго, як нарадзіла, амаль забытая — але маці не забываюць, і сэрца цягнецца да яе заўжды. Другая — тая, што гадавала, якую любіш больш розумам. Якую, як і вы, мы ня хочам заўтра згубіць.

**Натальля Бабіна**

# МЕСЦА Ў ПЕРАПІСЕ

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Мая бабуля распавядала пра ўкраінцаў, што зьявіліся пад Менскам за царом. Гэта былі моцныя гаспадары, якія пабралі ў ваколіцах Міханавічаў зямлю ў арэнду. Былі й вэтэраны, што атрымалі казённыя землі за службу. Іх запомнілі як надта працавітых і надта шумных людзей. Яны ж завезьлі сюды і памідоры. Вялікія, чырвоныя. Але неўзабаве вайна, нібы паводкаю, зьнесла гэтых людзей з нашых мясьцінаў.

Другая хваля ўкраінцаў зьявілася ў Беларусі пасьля вайны. Гэта былі ўжо іншыя людзі. Перадусім савецкія. Інжынэры, прарабы, геолягі... І іхнай рупнасьцю таксама паўставала паваенная БССР. Абсалютная большасьць украінцаў пасела ў гарадах. Апагей гэтае эміграцыі прыпаў на 70-я гады. У 60-х колькасьць жыдоў і ўкраінцаў зраўнялася. А вось ужо ў 70-я ўкраінцы склалі больш за 2% насельніцтва Беларусі — 4-я па колькасьці нацыянальная група.

Паводле перапісу 1979 г. украінцаў у БССР было ўжо 231 тысяча. Пры тым, аднак, толькі менш паловы зь іх лічылі ўкраінскую мову роднай. Нашы ўкраінцы ператвараліся ў савецкі народ хутчэй за саміх беларусаў. Яны не жылі ў Беларусі кампактна, як, напрыклад, палякі ці літоўцы. Не вылучаліся яны зьнешне, як жыды ці цыганы.

У 1989 годзе ўкраінцы склалі ўжо амаль 3% насельніцтва Беларусі. Для параўнаньня, беларусы ў Вільні таксама складаюць больш за тры працэнты яе жыхароў і таксама трывала займаюць чацьвертае месца па сваёй колькасьці.

Пры канцы лістапада будуць вядомыя папярэднія вынікі апошняга перапісу... Хоць адна лічба ёсьць ужо сёньня. У беларускім войску ўкраінцы складаюць 15 працэнтаў сярод афіцэраў. І гэта ўжо трэцяе месца...

А на Берасьцейшчыне ёсьць пашпартныя беларусы, якія лічаць сябе ўкраінцамі... ■

украінцы Берасьцейшчыны

# ШТО МЫ МУСІМ ВЕДАЦЬ ПРА ІХ?

Алег ПАРХАЧ

Хто гэтыя берасьцейскія ўкраінцы і адкуль яны ўзяліся на Берасьцейшчыне і Піншчыне? Не хацелася б у гэтым артыкуле заглыбляцца ў праблемы этнагенэзу ўкраінцаў і беларусаў. У сьвеце практычна няма краінаў, дзе б палітычныя межы супадалі з этнічнымі. Нешта падобнае і на Берасьцейшчыне. Далучыўшы ў 1939 годзе Берасьцейшчыну да Беларусі, каб кампэнсаваць ёй страту Смаленшчыны, бальшавіцкая Масква далучыла да Беларусі і тутэйшых карэнных украінцаў. На той час у нас была значна пашыраная ўкраінская нацыянальная сьвядомасьць: Берасьцейшчыну пакрывалі дзясяткі каапэратываў і гурткоў «Просвіты». Дзейнічалі такія ўкраінскія палітычныя партыі як УНДО, Сельроб, Сельсаюз, КПЗУ, АУН. У гэты час Берасьцейшчына дала шэраг вядомых украінскамоўных пісьменьнікаў: Д.Фалькоўскага, Ф.Одрача, І.Хмеля. Беларускіх структураў у раёне практычна не было, апроч КПЗБ — бо зь Менску кіраваць камуністамі было лягчэй, чым з далёкага Кіева.

1939 год. Пакуль у Маскве вырашалася, куды адыдзе Берасьцейшчына, пару месяцаў у Кобрыне, Янове, Пінску ўся афіцыйная дакумэнтацыя вялася па-ўкраінску, адкрыліся ўкраінскія школы. У 1940-м іх было 88: у Берасьцейскай вобласьці 58, у Пінскай — 30.

Пад час нямецкай акупацыі большая частка Берасьцейшчыны была далучаная да райхскамісарыяту «Ўкраіна», дзяржаўнымі мовамі былі абвешчаныя нямецкая і ўкраінская, усе школы былі ўкраінскія. У лясах на поўдзень ад Кобрыня, ля Дывіна, пачалі ствараца першыя сотні Ўкраінскай Паўстанцкай Арміі.

На тэрыторыі Берасьцейшчыны паўстанцкія групы ўкраінскіх патрыётаў працягвалі збройную барацьбу супраць бальшавіцкіх уладаў да 1953 году, і менавіта гэта (а зусім не беларускі патрыятызм адміністрацыі) стала прычынай таго, што ўкраінства ў нас і на сёньняшні дзень фактычна забароненае. Каб апраўдаць гэтую палітыку з «навуковых» пазыцыяў, была нават створаная антынавуковая тэорыя трэцяга беларускага дыялекту — заходне-палескага, насуперак клясычнай беларускай дыялекталёгіі, якая ведае толькі паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні беларускія дыялекты.

Назва «паляшук» як саманазва на Берасьцейшчыне ніколі не выкарыстоўвалася, «палешукамі» яны называюць цёмных, неасьвечаных, бедных людзей. На поўнач ад Берасьця слова «паляшук» выкарыстоўваецца як лаянка. У якасьці этноніму на Берасьцейшчыне была пашыраная архаічная саманазва — руські (расейцаў найчасьцей называлі кацапамі, беларусаў — хацюнамі, літвой, дзекачамі. Назва «беларусы» цяпер замацавалася як палітонім).

У 1990-х на Берасьцейшчыне створаныя ўкраінскія суполкі, аднак ім не даюць разгарнуцца. Вось і цяпер «не прайшло» перарэгістрацыі ніводнае ўкраінскае аб’яднаньне (17-га будзем судзіцца з гэтай нагоды з уладамі). Улады хочуць бачыць карэннае насельніцтва Берасьцейшчыны якімісь дурнымі палешукамі, «саўкамі», здольнымі толькі на тое, каб пастаўляць чалавечы матэрыял для іншых народаў.

Лічу, што дэмакратычныя сілы Беларусі павінны адмовіцца ад падтрымкі гвалтоўнай асыміляцыі ўкраінцаў Берасьцейшчыны і разглядаць іх як украінскую аўтаномную нацыянальную меншасьць, як гэта зроблена ў Польшчы што да беларусаў Беласточчыны. У іншым выпадку Беларусь будзе мець праблемы з выкананьнем міжнародных стандартаў у справе абароны нацыянальных меншасьцяў. ■

у рамках усенароднага абсуждзенія

# ГАДЗЮЧНЫЯ ПУНКТЫ

Аляксандар УРБАНОВІЧ

Калі хто не чытаў «Дамовы аб сазданіі саюзнага гасударства», то хай і не чытае. Бо можа прысьніцца чорная рука, якая крэмзала на паперы гэтыя гадзючныя пункты. Я хацеў сярод гэтых пунктаў знайсьці хаця адзін, які б адпавядаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі ці хаця тым руінам, якія засталіся ў «рэдакцыі» 96-га году. Знайсьці не ўдалося. Пэўна, дарослыя дзядзькі, якія складалі гэны «дакумант», чамусьці ня ведаюць, што гэта прээзэрватыў, а не Канстытуцыя, павінен выкарыстоўвацца толькі адзін раз. Аўтараў увялі ў зман.

Беларусы гэтай «дамовай» накідаецца пятля. Табарэтку заплянавалі выбіць праз пяць гадоў (агульны цэнтар эмісіі грошай), але «па просьбах трудзяшчыхся» спадзяюцца зрабіць гэта раней.

Але ж яшчэ можна дыхаць і можна плюнуць у морду «інтэграсэрам».

### ЗА 28 СІНЭКУРАЎ

Кебіч хацеў здаць Беларусь за два вагоны папяровых грошай. Гэтыя хочуць здаць Беларусь за 28 сінэкураў у «саюзным парлямэнце».

### ЛУКАШЭНКА І АРЫТМЭТЫКА

Я дрэнна сплю, калі нейкі час паназіраю па тэлевізары выступ ППРБ, таму перад працоўным днём стараюся такога не рабіць. Але мужна датрываў увесь ягоны маскоўскі выступ. Мяне цікавіла, так бы мовіць, тэхналёгія. Цікава ён абыходзіцца з арытмэтычнымі дзеяньнямі. Вось, напрыклад, ад 99 адняць 91. Здаецца, ну дзе тут можна накруціць. Ну як тут можна каго параканаць, што будзе ня восем. Такім чынам, яшчэ толькі ў сьнежні споўніцца восем гадоў ад заверnum шэньня існаваньня СССР. Арытмэтыка ж па-лу...ску дае адмысловы вынік: «дзесяць лет».

Ад ліпеня 94-га да лістапада 96-га прайшло 2 гады і 4 месяцы. Менавіта на такі пэрыяд прамоўца самавольна павялічыў тэрмін свайго знаходжаньня на службе ў Масковіі ў тым самым чыне. Па-ягонаму ж — «палтара года».

### ВУЛІЦА ШУШКЕВІЧА

Чаго таксама вартая заява выступоўцы пра тое, што Шушкевіч «разьвярнуў» краіну на Захад! За Шушкевічам гэтак, як і зараз, у кіёсках немагчыма было купіць польскай ды нямецкай прэсы, за Шушкевічам была падпісаная дамова з Расеяй аб «калектыўнай бясьпецы». Наагул, гэты чалавек «управлял теченьем мыслей, и только потому — страной». Занадта мякка вёў лінію, не хацеў і ведаць, якім змрочным сілам наступіл на хвост. Гэтым сілам недастаткова ніякай «згоды», іх задаволіць толькі 100 працэнтаў ад іхных жаданьняў, а ўсім астатнім — толькі дулю з макам. Іхныя крывыя мазгі не дапусьцяць і думкі, што можна ці трэба неяк лічыцца і з іншымі людзьмі — усё сабе і толькі сабе. Асабліва ж іх прыпякае, што іхныя магчымасьці меншаюць, як шагрэневая скура, дык гатовыя ўжо на апошнюю подласьць і здраду. Шушкевіч ня меў пільнасьці ўбачыць такія сілы, дык і прайграў. Але ж праз сто гадоў у сталіцы вольнай Беларусі абавязкова будзе вуліца Шушкевіча, а вуліцаў селязьнёвых-замяталіных, даруйце, ня будзе нідзе — ні ў Маскве, ні ў Менску.

### БЕЛАРУСЫ — ГЭТА НЭГРЫТОСЫ

Калі нехта даводзіць, што расейцы лічаць беларусаў чуць не за сваіх братоў, мне ўвесь час успамінаецца эпізод з адной маёй маскоўскай камандзіроўкі, яшчэ за эсэсэраўскім часам. У купэйных вагонах «аднойкі» людтады езьдзіў усякі, усё больш чыноўны. Не нарэзацца як сьвіньня пад час такой паездкі лічылася сярод гэтай публікі «дурным тонам». Асабліва помню словы і голас аднаго такога п'янага маскоўскага чынушы. Ягонага выгляду апісаць не магу, бо ня бачыў. Я стаяў у калідоры ды глядзеў у вакно. А гэны быў усярэдзіне купэ ды роў на ўвесь вагон: «Беларусы — эта негрытосы». Нехта яму мабыць пярэчыў — за паўвагону чуваць не было — бо гэты сказ прамаўляўся зноў і зноў, разоў чатыры ці пяць, з усё больш зьдзеклівай інтанацыяй і ўсё больш гучна.

Ёсьць, канечне, і прыстойныя расейцы. Ня трэба кагосьці лічыць братам, проста лічы іншага раўнёй самому сабе, прымі, што той ці іншы чалавек не вінаваты і ня мае заслугі ў тым, што нарадзіўся чалавекам той ці інакшай нацыянальнасьці. Жыві ў сваім доме й дапусьці, каб і іншыя жылі ў сваіх дамох. Ня руш чужога, дык і сваё цэлай будзе. Але ж цяжка, вельмі цяжка даходзяць такія простыя ісьціны... ■

дыскаграфія




*Зьявіўся сыгнал касэты «Нябачны мур». Праграма складаецца зь песьняў Алеся Камоцкага, Шымона Зыховіча, Дытара Калькі і Віктара Шалкевіча. Гэта запіс восеньскага канцэрту-фэстывалю на «Вольнай сцэне», першага спатканьня бардаў Беларусі, Польшчы й Нямеччыны*

# Па-за мурамі

Алесь Камоцкі, які па нядаўнім уласным прызнаньні "нарэшце навучыўся іграць на гітары", прадстаўлены гітамі "Кастрычнік", "Я выдумаў цябе", "Восень". Камоцкі — чалавек і аўтар грунтоўны, таму ён распачынае праграму, страхуючы слухача ад любых эмацыйных непажаданак.

Калі Камоцкі малюе вобразы падарожжа па краі й па сэрцах, дык Шымон Зыховіч падхоплівае тэму, але седзячы ў "Кнайпе зь нізкай стольлю". З кавай, з цыгарэтай блукае віртуальна. Дзіва што — Зыховіч "вядучы выканаўца" кракаўскага кабарэ "Піўніца пад баранамі". Як каго, а мяне зьдзівілі ў Зыховіча ноткі, якія перагукаюцца з матывамі расейскіх "выканаўцаў аўтарскай песьні". Ці справа не ў нацыянальнасьці, а ў "аўтарскасьці"? Зрэшты, у Зыховіча можна адчуць і раньнія "чырвонагітарныя" матывы... У любым выпадку, Шымон Зыховіч — профі і наш чалавек на ўсе сто. У тым сэнсе, што ён бы ўпісаўся ў культурніцкую тусоўку і Менску, і Вільні, і Горадні.

Бадай, найбольшым адкрыцьцём фэсту стаўся выступ Дытара Калькі. Немец. Першая асацыяцыя — здаровы гатычны замак, шэрага да чарнаты колеру, у якім сядзіць суворы чалавек і грае на аргане, ці піша змрачнаваты партрэт, ці прыдумляе казку, у якой "паснулі ўсе навек". Менавіта з бахаўскай строгай тэмы пачынае Калька сваю песьню "пра Свабоду". Нібы падыгрываe распачюджаным стэрэатыпам, каб адразу ж узарваць іх. Наступную песьню "Бязьмежныя лясы" можна параўнаць з вэрсіяй песьні пра "Падманутую Галю" "Вопляў Відаплясава". Круты забабняк на гармоніку. Калька, вядома, выкарыстоўвае й гітару, але ўражвае менавіта гармонік, які ў ягоных руках сапраўды "über alles". Прасьпяваў Калька які кавалак на ўступных экзаменах у кансэрваторыю, яго б выперлі праз сэкунду. Але на тэатральнай сцэне ён адзін стварае нешта блізкае да рок-канцэрту. Таксама наш чалавек.

Шалкевіч на касэце распачынае выступ "нясмачнай" па зьмесьце песьняй "Менскі часопіс "Архэ" і цагліна Ружанскага замку", у якой "сустрэліся потныя рукі". Завяршае "нясмачнай" па тэме "З Новым годам, электарат". Паміж імі ёсьць дзьве цудоўныя мінінавэлі "Рэквіем па настаўніцы" і "Патрыятычнае танга "Цнота". У першай настаўніцу расейскай мовы зь беларускай вёскі зьядае воўк, а ў другой гарадзенская прастытутка падпадаецца на патрыятычныя лёзунгі польскага афіцэра пра бясплатнае каханьне і застаецца падманутая, бо ён аказваецца жыдом, савецкім шпегам. Прыкольная мініятура — стыхія Шалкевіча. Гістарычная тэматыка ў яго патасна-банальная, а сацыяльная, калі падыходзіць да тэмы першага нумара часопіса "Arche", — парнаграфія. Затое Шалкевіч адзначаецца такой экспрэсіяй, што, як той джын, руйнуе і ўзводзіць любога віду муры.

Каб я пісаў не рэцэнзію, а казаў тост, я б скончыў словамі: "Дык вып'ем за сяброў, за класную музыку, і за тое, каб нябачныя муры, якія разьдзяляюць людзей, сталіся бачнымі, але несапраўднымі!"

**Севярын Квяткоўскі**

бібліятэка

# Дэміталягізацыя Машэрава

Симуров А. **Вожди, вожаки, вожачки: тайными коридорами власти.** — Менск: Парадокс, 1999.— 248 с. ISBN 985-451-006-9

Калі лічыць нацыянальных герояў Беларусі ў катэгорыі «палітыка» па марках «Белпошты», дык за ўсю тысячагадовую гісторыю краіны такіх набралося акурат пяць чалавек: легендарны Рагвалод, Мікалай Радзівіл «Чорны», Леў Сапега, Пятро Машэраў і сёньняшні лідэр. Паколькі размова ў рэцэнзаванай кніжцы ідзе пра такога рангу кіраўнікоў рэспублікі ў часы панаваньня саветаў, дык у першую чаргу нас цікавіць знакаміты партызан — самы слынны з той плеяды.

Творчую немач аўтараў, што пішуць на «машэраўскую» тэму, заўважалі даўно, бо пік выданьня кніг пра згаданую асобу прыйшоўся на 1992—1993 гады. І ў 1998 г., калі шырока сьвяткавалася 80-годзьдзе з дня нараджэньня Машэрава, з адной кніжкі ў другую працягвалі пераходзіць нецікавыя апавяданьні ні пра што: «першым стварыў камсамольска-маладзёжнае падполье, першы падняўся ў атаку». Але ці ж гэткімі сьцвярджэньнямі можна пераканаць сучаснага дасьледчанага чытача ў тым, што размова ідзе пра нацыянальнага героя? Тут патрабуюцца факты, а калі іх няма, то атрымліваецца, як у старым анэкдоце: «А што казаць, калі няма чаго казаць?»

У гэтым сэнсе выгадна адрозьніваецца ад раней надрукаванага кніжка А.Сімурава, уласнага карэспандэнта газэты «Праўда» ў Беларусі. Галоўная каштоўнасьць гэтай працы ў тым, што аўтар піша толькі пра тое, што сам бачыў, чаму быў сьведкам.

Са старонак успамінаў некаторыя шырокавядомыя кіраўнікі рэспублікі ў мінулыя гады, а ня толькі П.Машэраў, прадстаюць перад чытачамі без арэолу палітычнай велічы, у непарадных сытуацыях, напрыклад, у грамадзкай прыбіральні, калі ахова аднаго з партыйных босаў перакрывае ўваход, дазваляючы зайсьці туды толькі «самому». Астатнія, «простыя і сьмяротныя», вымушаны зь нецярплівасьцю чакаць, з глыбокай пашанай у думках намаляваць сабе адказную позу партыйца над пісуарам.

А.Сімураў дапаўняе новымі штрыхамі партрэты амаль «канaнізаваных» асобаў, і перадусім П.Машэрава. Хоць у кнізе яму прысьвечана ўсяго некалькі старонак, аўтару ўдалося ажывіць воблік славутага партызана. Багата пра што гаворыць, напрыклад, такая падрабязнасьць: жадаючы дагадзіць маскоўскаму карэспандэнту, Машэраў адпраўляе спэцыяльны самалёт, каб даставіць яго зь Менску ў Маскву.

Уласныя карэспандэнты «Праўды» нагадваюць усюдысныя і ўсюдыпранікальныя «вочы і вушы» цэнтральнага органу КПСС. Яны ня толькі на роўных размаўляюць зь першымі асобамі саюзных рэспублік, але здольныя нават прывесьці ў паніку кіраўнічую эліту з краінаў «сацыялістычнага лягеру», ад якіх могуць ультымэтыўна патрабаваць прыняць тое ці іншае рашэньне.

Адчуваецца, што аўтар мог даць і больш матар'ялу, але нешта яго стрымлівала. Пра сябе піша шчыра, амаль як на споведзі, пра былых кіраўнікоў усё-ткі з асьцярогаю.

**Г.Туровіч**

гісторыя

# Зноў пра Вітаўта

*Прыемна, што мае вольныя развагі пра бітву на Ворскле выклікалі палемічны водгук («НН», 8.11.1999). Гатовы да крытыкі, бо амаль не надаваў увагі хадзе самой сечы. Вэрсія сп.Бадуна цікавая, але, падаецца, занадта спрошчаная. Усё ў ёй выглядае гранічна ясна й лягічна, усе паводзяць сябе «разумна», «рацыянальна», «мудра» і «геніяльна». Але няпраўдападобна...*

*На жаль, у рэальнай гісторыі так амаль не бывае. І такія знаёмыя ідылічныя парсуны вялікіх князёў (перадусім Вітаўта!), ад якіх дайно прыкра, — таксама непраўдзівыя. Не, Вітаўт быў жывым чалавекам. Гадоў праз дзесяць пасьля Ворсклы ён раптоўна кіне сваю армію ў балатах і непралазных гушчарах Маскоўшчыны, а сам, мяняючы коняў, паляціць да маладой жонкі ў Вільню. І ягоныя пачуцьці зноў будуць аплочаныя сотнямі ды сотнямі жыцьцяў... А гэта ж не адзіны прыклад.*

*Што да Ворсклы, дык сапраўды, слушны выбар крыніцаў ёсьць першай умовай кожнага нармальнага дасьледаваньня. Толькі ня менш важнай застаецца іх крытыка. Чаму перавага мусіць аддавацца адно заходнім кронікам? У згадках пра Ворсклу яны насьледавалі пераважна нашым летапісам, ды й ці ўтрымлівалі інфармацыю ўсё ж больш аўтэнтычную. Да таго ж, хаду бітвы яны нідзе не разгортваюць і ўжо ніяк не фіксуюць карціны такой, якою яна намаляваная сп.Бадуном. Я б ня цьвердзіў катэгарычна й пра тое, што Эдыгей быў з маленькім войскам, а Цімур-Кутлук — зь вялікім. Акурат Эдыгей лічыўся тады галоўным камандзірам войскаў Залатой Арды, і менавіта яму гістарыяграфічная традыцыя прыпісвала разгром Вітаўта.*

*Ворскла належыць да падзеяў, якія яшчэ літаральна патанаюць у цемры невядомага, а недахоп верагоднай інфармацыі заўжды спараджае самыя розныя вэрсіі, таму спрэчкі тут цалкам натуральныя. Мне хацелася запярэчыць адно такой катэгарычнай лягізацыі. Шукаць лёгіку ў хаосе мінулых падзеяў канечне ж хочацца, але штука ў тым, што лёгіка і рэальнае жыцьцё прынцыпова ня зводзяцца да адной плашчыні, што прывабным лягічным канструкцыям найчасьцей аніяк не пасуе «непрычасаная» фактура рэальнай гісторыі.*

**Генадзь Сагановіч**



сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя

# Віктар Маркавец. ВЕЧАР НА ВУЛІЦЫ ЗАМКАВАЙ У МЕНСКУ

Віктар Маркавец з таго пакаленьня, для якога Менск *ужо йснаваў* як адзіная сталіца, са сваім эрзацам беларускае культуры і ўстойлівым комплексам нацыянальных ідэяў. Прынамсі, *адкрываць* Менск альбо захапляцца ягонымі рытмамі для яго было б анахранізмам. Перад Маркаўцом, бадай, ніколі не стаяла задача ўсьвядоміць сябе *менскім* мастаком, што было істотна для перадваеннага пакаленьня й для мастакоў першых паваенных гадоў. Напачатку 70-х ён маляваў палотны, прысьвечаныя нафтавікам Палесься. Сэрыя тых карцінаў — сьведчаньне ўнутрынацыянальных пошукаў новае генэрацыі, якая атрымала цалкам беларускую, *менскую* адукацыю. Сам родам з Докшыцаў, Віктар Маркавец, сталеючы як мастак, усьвеДамляў сябе ў агульнабеларускім маштабе. Адсюль выніkалі і тыя тэмы, і тыя пошукі пластычнае мовы, найбольш адпаведныя Беларусі наогул. Гэты парыяд у жыцьці мастака супаў з агульнай тэндэнцыяй у нашым мастацтве — пошукамі інтымнага як рэакцыяй на «манумэнтальны інтэлектуалізм» постіндустрыйнае савецкае культуры.

Напрыканцы 70-х Маркавец піша два палатны — «Сьвята ў Докшыцах» і «Купальле», праграмныя для аўтара. Незвычайная, блізу інсітная, сьвежасьць гэтых работаў стала для тагачаснага беларускага жывапісу этапам. Невыпадкова творчасьць Маркаўца й дасёньня трывала асацыюецца менавіта з гэтымі палотнамі.

У іх, між іншым, выявіўся й пэўны дуалізм ягонае творчае канцэпцыі. «Сьвята ў Докшыцах» напісанае лёгка, амаль акварэльна. Прастора, раскладзеная на пляны, пабудаваная на тонкіх, нюансаваных пераходах. А «Купальле» — гэта пастозны, імпэтны жывапіс, у шматлікіх канфліктных спалучэньнях сьвятла і колеру. Гэткая дваістасьць, запачаткаваная ў час творчага ўздыму, стала адной з найбольш адметных рысаў у ягонай творчасьці наогул.

Годам пазьней Маркавец піша два менскія краявіды. Таксама цалкам розныя й манерай і настраёвасьцю. «Вуліца ў старым Менску» напісаная нібы ў стылістычных традыцыях мадэрну: дэкаратыўна акрэсьленыя аб'екты ва ўмоўнай прасторы... Між тым, гэты адрас пазнаць лёгка. Гэта тая самая вуліца Герцэна, што й сёньня. Амаль тая самая... І вось жа тое адліжнае *менскае* паветра. Пры ўсёй сьціпласьці каляровае гамы, складзенай з паўтаноў вохрыстага, тэракотавага, жоўтага ды шмат, шмат адценьняў беларускага шэрага. Гэты твор удае тонкай стылізацыяй пад манеру мо Дабужынскага, а мо яшчэ каго з мэтраў пачатку стагодзьдзя.

Другое палатно — «Вечар на вуліцы Замкавай» — ужо не паралельны, а зусім іншы твор.

Вуліца Замкавая — самы сапраўдны колісь, жывы суплёт з таго, што стварыў чалавек і дала прырода. Тут было паветра сваё. Сьвятло — сваё. І пахі, што йшлі ад драўляных ходнікаў, былі зусім асаблівымі, сваімі.

Гледзячы на гэтае палатно, згадваеш пра Марыса Ўтрыла зь ягонымі імжыстымі куткамі вечаровага Манмартру. Французскі жывапісец, аднак, адмыслова дэсакралізаваў міт пра горад. У Маркаўца тут была іншая задача. Ён ствараў міт пра Менск, напаўняючы кавалак ягонай прасторы таямніцамі.

Сьвецяць вокны, за якімі адбываецца ці ўжо адбылося чыёсьці жыцьцё. Гарыць цёплае сьвятло ў самотнай тэлефоннай будцы. Пэўна і там кагосьці чакаюць. Патанаюць у загуслым сінім паветры цені вялікіх старых дрэваў. Дрэвы, цьвярдыя, разлапістыя, сыходзяць жорсткім шурпатым гальлём ўвышыню, за край палатна. Увесь матыў жыцьця застаецца ўнізе, у засені гэтых дрэваў. Кавалак вялікага жыцьця, датклівасьць якога падкрэсьлівае доўгі танкі слуп ліхтара з крохкім карункавым кранштэйнам. Людзей, разам зь іхнімі здабыткамі і хлудам, пераЖывуць хіба дрэвы, якія былі й будуць. Кампазыцыйна палатно пабудаванае так, што яно нібы ўцягвае гледача, скажаючы простыя пэрспэктывы, і зьверху, і наўпрост, у самае чэрава таго арганізму, што зваўся старым Менскам. Дзеля гэтага мастак прыбег да ўмоўнага ракурсу на ўзроўні стрэхаў. З-за чаго глядач, міжволі, успрымае выяўленыя дамы роўнымі сабе.

Каляровыя спалучэньні — таксама незвычайныя. І для тагачаснага мастацтва, і для жывапісу Маркаўца наогул. Можна шукаць тут розных цытатаў, аднак, перадусім, гэта чыстая інтуіцыя. У выніку, сярод удараў халоднага й цёплага, сярод скасавураных дрыготкіх ценяў, што паўзуць, пагойдваючыся, па шматграньніках старых дамоў, ствараецца тое цяжкаўлоўнае адчуваньне подыху. Мастак напоўніцу выкарыстаў эфэкт сьвятла, што праменіць з розных бакоў. Ліхтар, вокны з розных бакоў, а па-над усім разьлітае мацiцовае сьвятло нябеснага паўзмроку. У гэтым *уздыхаючым* палатне вычуты той настрой, які й ствараўся ў тым, колішнім горадзе. Горад і вуліца, што бачныя з вокнаў майстэрні Віктара Маркаўца. Горад і вуліца, якіх ніхто ўжо не пабачыць. Ніколі.

**Сяргей Харэўскі**



**Віктар Маркавец** (1947, Докшыцы) жывапісец, габэленшчык. У 1971 годзе скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. У 1980 атрымаў прэмію Ленінскага камсамолу. Працы зьберагаюцца ў зборах Беларусі, Польшчы, ЗША, Расеі.

каляндар

# 175 гадоў таму

**1824.** Трыццатыя ўгодкі задушэньня паўстаньня Касьцюшкі. Царскія ўлады судзяць у Вільні «сяброў навукаў» — філяматаў і «сяброў дабрачыннасьці» — філярэтаў. Дзесяць філяматаў, сярод якіх «аўтар праекту» Тамаш Зан, Адам Міцкевіч, Ян Чачот... і дзесяць філярэтаў — Адам Сузін, Ян Крыніцкі, Цыпрыян Дашкевіч... Іх высылаюць з Радзімы назаўсёды. Прычым Зану, Чачоту і Сузіну, як «асабліва злосным», даюць тэрміны ў вязьніцы.

Сытуацыя нагадвае тую, што паўторыцца ў менскай Акадэміі Навук праз сто пяцьдзясят гадоў. У 1974 навукоўцаў абвінавачвалі ў беларускім нацыяналізме толькі за тое, што яны «тайна» зьбіраліся і пад выглядам сьвяткаваньняў якіхколькі датаў «размаўлялі па-беларуску» і абмяркоўвалі шляхі і задачы вывучэньня беларускай культурнай спадчыны. Філяматы зьбіраліся менавіта такім чынам — на «пасядзелкі». А вось адно з дэклараваных імі правілаў: «Прыхільнасьць да айчыннай зямлі ў тым, каб жадаць дабра суайчыньнікам кожнага стану і ўсяму народу наогул, захоўваць карысныя звычкі сваіх бацькоў, любіць прыродную мову і вывучаць яе, помніць славу і подзьвігі продкаў і ў меру сілы сваёй і стану памнажаць іх». У рапарце пасьля допытаў філяматаў адзначалася, што «под словом привереженности к своему краю разумелась не привереженность к Российской империи вообще, но только к губерниям, составляющим виленский университетский округ». Якія яшчэ «злачынствы»? Пісалі вершы, у тым ліку на «холопском наречии», вучылі «экзатычныя» на той час мовы, кшталту ангельскай, нямецкай, гішпанскай... Мэтадычна займаліся краязнаўствам... Карацей, рыхтавалі кадры. Цікава, што, як і ахвяры «акадэмічнага разгрому» 1974-га, філяматы ўсьвядомілі сябе «палітычнымі» ўжо пад час допытаў.

Чым яшчэ адзначыўся той год? Вядома, шчыраваньнямі афіцэраў «дзекабрыстаў», якія былі асабліва актыўныя ў Гарадзенскім уланскім палку. Збольшага камандзіры маладушага і сярэдняга зьвяна, пераважна «тутэйшыя». Да іхнага «выхаду» яшчэ цэлы год...

Тым часам у Маскве Іван Грыгаровіч на сродкі графа Румянцава выдае першы беларускі археаграфічны слоўнік «Беларускі архіў старажытных грамат». Першы і апошні з пляваных трох, дзе сабрана пяцьдзясят сем дакумэнтаў з гісторыі Ўсходняй Беларусі 15-18 стагодзьдзяў.



Іван Грыгаровіч

Географ Язэп Ходзька праводзіць першыя ў Беларусі градусныя вымярэньні.

Будуюць Браслаўскі касьцёл.

**У 1824** у маёнтку Тупальшчына каля Смаргоні нарадзіўся адзін з камандзіраў Каліноўскага Юльян Бакшанскі. Упершыню ён на свае вочы пабачыць, што такое вызвольнае паўстаньне, праз шэсьць гадоў.

**Севярын Квяткоўскі**

Віталій ПАНАМАРОЎ

# «КАХАЙ СВАЁ»

*Украінцы маглі б павучыцца ў беларусаў барацьбе за сваю культуру*

«Калі паляк заўзята пярэчыць: «Ешчэ Польска не згінэла!», а ўкраінец дагэтуль вагаецца: «Шчэ нэ вмэрла Украіна...», дык беларус цьвёрда перакананы: «Жыве Беларусь!»

Сапраўднымі «касаварамі Беларусі» сёньня можна назваць адразу дзьве нацыянальныя меншасьці: украінцаў Берасьцейшчыны і... ўласна беларусаў. Беларусы стварылі сучасную культуру супраціву, якая паядноўвае вытанчаную традыцыю Вялікага Княства Літоўскага і найноўшыя эўрапейскія духоўныя здабыткі з зацятасьцю вахабітаў, што бароняць уласныя сялібы.

У беларускім інтэлектуальным асяродзьдзі сёньня ці не найпапулярнейшым зьяўляецца вясёлы сюжэт, які можна ўмоўна назваць «Снайпэр на даху». Славуты верш Славаміра Адамовіча «Убей президента!», за які паэт год адседзеў у турме, — гэта толькі адзін прыклад распрацоўкі тэмы.

Лукашэнку беларусы назвалі непатрэбным яшчэ ў 1995 годзе, калі зьявіўся гіт Касі Камоцкай «Прэзыдэнт, ідзі дамоў!» Сёньня ж ня меншы гіт — кампутарная гульня «Менск», у якой, каб выйграць, трэба ўзьняць віртуальны бел-чырвона-белы сьцяг і «зваліць Бацьку». Першую чарку беларус п'е «за снайпэра». Таму, апынуўшыся на бальконе апошняга паверху ў цэнтры Менску, мімаволі шукаеш гэтага снайпэра вачыма сярод бляшаных дахаў сталінскіх будынкаў.

Водгульле сучасных беларускіх падзеяў: перасьлед беларускае культуры, зьбіцьцё міліцыяй бяззбройных дэманстрантаў, таямнічае зьнікненьне кіраўнікоў апазыцыі, намаганьні «ўсенароднага фашыста» (выслоўе Адамовіча) прапусьціць праз турмы як найбольш грамадзянаў, дзяржаўная антызаходняя прамаскоўская прапаганда — усё гэта прысутнае нават у творах адарваных ад жыцьця постмадэрністаў. У дэтэктыўнай аповесьці Ўл.Сакалова «Заўжды сьветла ля турэмных муроў» дэталёва апісаны замах на жыцьцё абстрактнага «Прэзыдэнта» Беларусі, прычым спосаб забойства — сутыкненьне грузавіка з бульбай і прэзыдэнцкага лімузыну — адсылае беларусаў да гібелі кіраўніка кампартыі БССР Пятра Машэрава (гэты бэстсэлер, напісаны ў 1991 годзе, апублікаваны па-беларуску толькі сёлета).

У прыпавесьці Адама Глёбуса Дыктатар, ён жа Пачварнік, разьбівае сабе галаву, пасьлізнуўшыся каля басэйну. Урэшце, філёзаф Валерка Булгакаў у артыкуле «Геній Лукашэнкі» тлумачыць прагненьне ППРБ (беларускі эўфэмізм для пазначэньня Першага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі) пазбыцца дзяржаўнае незалежнасьці і беларускае культурнае ідэнтычнасьці праз расчыненьне ў «расейскім моры» як праяву «комплексу імпатэнцыі» і «комплексу кастрацыі». І нават рашэньне гераіні апавяданьня Наталкі Бабіны: «Забіць чалавека, які агідны», — у Менску адназначна ўспрымаецца ў агульнабеларускім кантэксьце. А найбольш ёмка і дакладна стаўленьне беларусаў да дыктатара здолеў выказаць Андрэй Дынько: «Mors Tua Vita Mea — Твая Сьмерць Маё Жыцьцё».

Аднак беларусы здольныя ня толькі зьедліва сьмяяцца з узурпатара, чые партрэты і сёньня прадаюцца ў цэнтральных кнігарнях. Яны здольныя шчэ й даваць пытлю як спэцпадразьдзяленьням міліцыі пад час мітынгаў і шэсьцяў, так і фашыстам з «Расейскае нацыянальнае еднасьці», якія прысмакталіся да Беларусі дзякуючы сымпатыям «грамадзяніна Л.» да Гітлера. Але найбольш небясьпечным для сёньняшніх папулярызатараў «славянскага базару» ёсьць цалкам легальны клопат інтэлектуалаў пра беларускую культуру: навуковыя досьледы, кнігавыданьне, рэстаўрацыя помнікаў, адукацыя, нават пісаньне прозы ці вершаскладаньне — уласна, усё, што падмацоўвае самадастатковасьць Беларусі.

Сучасная беларуская культура супраціву зьяўляецца, паводле трапнага выказваньня таго самага Славаміра Адамовіча, «контракультурай і контраэкспансіяй на ўсе чатыры бакі». У краіне, дзе прылюдная размова на адной зь дзяржаўных моваў лічыцца праявай нацыяналізму, а сам нацыяналізм разглядаецца як дзяржаўнае злачынства, — у такой краіне звычайныя прафэсійныя дзеяньні інтэлектуалаў стаюць учынкамі, што ратуюць годнасьць нацыі.

Цяпер у Менску актыўна абмяркоўваецца новы сюжэт — «Краіна пасьля Лукашэнкі». «Каралеўства Беларусь», змадэляванае беларускай элітай, зьяўляецца такім самым ідэальным цэнтральнаэўрапейскім праектам, як і саборная Ўкраіна «ад Сяну да Дону». Рэальна ж, пераважная большасьць грамадзянаў абедзьвюх краінаў — прастыя савецкія людзі, «саўкі», якія яшчэ доўга будуць навязваць грамадзтву — на цалкам дэмакратычных падставах — і свайго прэзыдэнта, і свае погляды і густы. Гэты кляс сычны для посткамуністычных краінаў стан беларусы штодня адчуваюць на ўласнай скуры: «Шклянку гарбаты, калі ласка». — «А нельзя нормально попросить: стакан чая?!»

Ад кіянаў-беларусафілаў шмат разоў даводзілася чуць пра адчуваньне віны перад беларусамі за нашую — якая ні ёсьць! — свабоду, пра маральны доўг украінцаў перад нашымі кузэнамі-«ліцьвінамі». Аднак рэальныя культурныя вынікі беларускіх намаганьняў сьведчаць: нашаму паўночнаму суседу апека не патрэбная. Менскія інтэлектуалы не адчуваюць дыскамфорту або комплексу непаўнавартасьці ў той прасторы паміж Менскам, Львовам, Кіевам, Варшавай і Вільняй, якая завецца «Сярэдняй Эўропай». Аб'яднаныя сямю стагодзьдзямі супольнае гісторыі і надзвычайнай блізкасьцю культураў, нацыі Міжмор'я сёньня зьвязаныя шчэ й геапалітычна — агульнай патрэбай абароны ад хваляў славянскага фундамэнталізму, якія наплываюць на Эўропу з Усходу.

У нечым беларусы мысьляць больш вольна, чым шмат хто з украінцаў. Цяжка ўявіць, напрыклад, украінскі часопіс, асобны нумар якога быў бы прысьвечаны дэканструкцыі міту Вялікае Айчыннае вайны — гэтае падваліны савецкае ідэалёгіі. А такі беларускі часопіс называецца «ARCHE» (1999, №2), і яго аўтары цалкам спакойна апэруюць паняцьцямі «савецкая акупацыя» або «злачынствы чырвоных партызанаў». Іншы прыклад: у станоўчай, увогуле, рэцэнзіі на кнігу львоўскага гісторыка Яраслава Грыцака «Нарыс гісторыі Ўкраіны. Фармаваньне мадэрнае ўкраінскае нацыі XIX—XX ст.» у «Беларускім гістарычным аглядзе» беларус Андрэй Кіштымаў робіць адзіны закід: «Калі казаць пра калябарацыю ўкраінцаў зь немцамі, дык чаму б тую самую гістарычную лёгіку і крытэры не пашырыць на іх супрацоўніцтва з савецкай уладай?»

Дый сёньня ўкраінцы мусяць казаць ня столькі пра абавязак перад беларусамі, колькі пра любоў да Беларусі, пра дзіўную закаханасьць у гэтую цудоўную краіну. А любоў, тым больш закаханасьць, цяжка ўзгадніць з абавязкам...

Вандроўкі па менскіх вуліцах — з Чырвонай на Чырвонаармейскую, з Чырванадонскай на Чырваназорную — за два дніператвараюць украінца ў шчырага «беларускага буржуазнага нацыяналіста». Калі вяртаесься зь Менску ў Кіеў, з прывакзальнае плошчы адразу трапляеш на вуліцу Камуністычнага Інтэрнацыяналу, а ў гастраноме бачыш сасіскі «Славянскія». А калі пасьля яшчэ даведаесься пра павышэньне прадукцыйнасьці працы на ўкраінскіх ураняваных капальнях; калі слухаеш абяцанкі атрымаць нябачаныя ўраджаі кукурузы адразу ж 1 лістапада; калі выяўляеш пазнавана-лукашэнкаўскія інтанацыі ў маналёгах пра агульнаўкраінскі рэфэрэндум ці дзьвюхпалатны парлямэнт; калі, урэшце, аналізуеш перадвыбарчыя дзеяньні ўлады — тады беларускі досьвед супраціву падаецца надзвычай актуальным для Ўкраіны. ■

*Пераклаў з украінскай Андрэй Скурко паводле часопіса «Пік»*



Верка Сярдзючка (Андрэй Данілка). Фота Валер'я Скляранкі, «Крытыка»

# ВЕРКА СЯРДЗЮЧКА

Аляксандар ГРЫЦЭНКА

У 1995 годзе на ўкраінскіх тэлеэкранах зьявілася некалькі рэклямных кліпаў днепрапятроўскага «Прыват-Банку», у якіх галоўнай дзейнай асобай была худая (але зь вялізнымі грудзямі) безгустоўна размаляваная і крыклівая чыгуначная праваднiца, якая на расейска-ўкраінскай трасянцы прызнавалася ў любові да «Прыват-Банку», акцыі якога яна нібыта прыдбала: «Дывідэнды «Прыват-Банку» нам палезьней добрай п'янкі!» Ролю праваднiцы сыграў маладзенькі студэнт эстрадна-цыркавое вучэльні Андрэй Данілка, і наўрад ці тады ён сам ці замоўнікі рэклямных кліпаў мелі намеры працягваць экраннае жыцьцё тэлегераіні. Аднак, іранічнасьць кліпаў, іх выяўная «постсавецкасьць», а галоўнае — несумненны камічны талент Андрэя Данілкі зрабілі сваю справу: невядома, ці нашмат пабольшала акцыянэраў «Прыват-Банку», але папулярнасьць праваднiцы Веркі набыла агульнаўкраінскія маштабы.

Колькі месяцаў таму на тэлеканале «1+1» зьявілася ўласная праграма Веркі Сярдзючкі «СВ-шоў». Праваднiца Верка, убраная ў бліскучы «зоркавы» жакет і драныя панчохі, прымае, як вядучая, розных гасьцей — зорак кіно, тэлебачаньня і шоў-бізнэсу, з мэтай ня столькі ўзяць у іх інтэрвію, колькі пацешыць і іх, і гледачоў. Пры гэтым гасьцей «Купэ СВ» яшчэ й частуюць тыповай «дарожняй ежай» — ці то вараным яечкам, ці то хатняй кілбаскай, і абавязкова наліваюць «пакрыху» ў аднаразовыя плястыкавыя шклянячкі (адсюль, мабыць, і назва «тэхна-піта» Веркі). А напрыканцы праваднiца прапануе госьцю (госьці) клясьціся спаць тут жа, на канапе, ды й сама кладзецца побач, пад адной коўдрай.

Празь некалькі тыдняў пасьля зьяўленьня праграмы «СВ-шоў» пра Верку загаварылі ўсе — ня толькі газэтныя тэлеаглядальнікі, але й рэнамаваныя інтэлектуалы і нават народныя дэпутаты. Казалі рознае — лаялі значна часьцей, чым хвалілі, але ўсё гэта, само сабой, толькі спрыяла Верчынай папулярнасьці (то бок тэлерэйтынгу). У хуткім часе «СВ-шоў» ужо ператрансьляваў маскоўскі канал НТВ, а зараз, кажуць, папулярнасьць праваднiцы-зоркі сярод расейскае тэлеаўдыторыі значна вышэйшая, чым сярод украінскае, якой за два гады Верка прыелася, а мо крыху й абрыдла.

Не спачываючы на лаўрах, Верка Сярдзючка засвоіла іншыя мастацкія спэцыяльнасьці — пачала сьпяваць, запісала цэлы альбом «кампазыцыяў» ва ўласным выкананьні, а сёлета на тэлеэкранах нават зьявіліся відэакліпы на гэтыя «кампазыцыі» (найбольш вядомая — «Пакрыху» зь бесьсьмяротным рэфрэнам «Без бокала нет вокала, Ліда!»).

Апошнім творчым праектам нястомнае праваднiцы стаўся спэктакль «Тытанік», які вытрымаў некалькі аншлягаў у тэатры імя Лесі Ўкраінкі, нягледзячы на даволі-такі дарагія квіткі. У гэтым спэктаклі Андрэй Данілка выконвае некалькі роляў, аднак стрыжнем, на якім усё трымаецца, канечне ж, застаецца Верка, кожнае зьяўленьне якой на сцэне нязьменна суправаджае авацыя...

Скетчы-маналёгі раньняе Веркі грунтаваліся на ўдала схопленых у штодзённым жыцьці фразах, сьмешных ці абсурдных дарожных сытуацыях («што яно мне ваняе», «дайце чаю, бо скучаю» ды іншых такіх «вішнёвых усьмешках»). Калі эстрадная папулярнасьць Веркі праклала ёй шлях на штотыднёвы тэлеэкран (ды яшчэ й на найбольш папулярным украінскім тэлеканале), яе «прыкід» зьмяніўся — здавалася б, і ня дужа, але прынцыпова. Замест звычайнага стандартнага кіцеля зьявіўся нібыта элегантны жакет, увесь у нейкіх бліскаўках; спадніца засталася тая самая, шыранькая, а вось панчохі падраліся — прычым на самым бачным месцы. А надзіманыя грудзі сталіся значна большымі. Такім чынам, візуальны вобраз з шаржаванага ператварыўся ў яскрава гратэскавы і набыў адкрыта-пародыйны.

Парадыйнасьць і правакацыйнасьць зьнешнасьці тэле-Веркі суправаджаецца ня менш парадыйнаправакацыйнымі паводзінамі ў самой праграме «СВ-шоў». Прымаючы маскоўскага кампазытара Ігара Крутога (гэтая «акула шоўбізнэсу» вядомая тым, што пячэ шлягеры як бліны — ледзьве ня сотнямі, і ўсе падобныя адзін на адзін), Верка прапануе госьцю тут жа, у студыі, напісаць песьню — скажам, на верш Шаўчэнкі «Мне трынаццаты мінала, я пас цялята за сялом»... Пан Крутой сапраўды за нейкіх дзесяць-дваццаць сэкундаў прадукуе жаласную мэлёдыю а la жабрацкія сьпевы ў цягніках і па вакзалах, а сама Верка адразу ж пачынае сьпяваць гэтую нібыта песьню нібыта Шаўчэнкі, згорбіўшыся і па-жабрацку працягнуўшы руку. Тут правакацыя падвойная: як да «крутога кампазытара» (які, дарэчы, ледзьве стрымліваў раздражненьне), так і да «шчырых украінскіх патрыётаў» ля тэлеэкранаў (а як жа — замах на самога Шаўчэнку)...

Уласна, пэрманэнтны крыніцай правакацыйнае напругі ў «СВ-шоў» зьяўляецца ўжо сама канцэпцыя — фікцыйная вядучая (ці то — вядучы, хлопец, пераапрануты ў «бабу») і «сапраўдны» госьць (госьця), які (якая) далёка не заўжды ведае, як ставіцца да Веркі — ці як да жанчыны (прызнаўшы «фікцыйную» рэчаіснасьць), ці як да хлопца, які «проста грае ролю» (тым самым рызыкуючы «сапсаваць гульню»). Далёка ня ўсе здольныя пасьпяхова справіцца з гэтай праблемай, а тым часам глядач за імі назірае зь цікавасьцю ці спачуваньнем.

Урэшце, ці не зьяўляецца сама ідэя «праваднiцы-зоркі» пародыяй на нашу сучасную культурную трансфармацыю — чароўнае ператварэньне «саўка» ў «цэнтар Яўропы» (пардон, «цэнтар Эўропы»). ■

*Пераклаў А.С. паводле часопіса «Крытыка»*

# РАСКАЗ ПРАРАБА



Фота Анатоля Клешчука

Багдан ЖОЛДАК

Ходзяць разныя людзі вуліцай, калі бачаць: із сямнаццатага паверху пачынае падаць дзіцятка, гадкоў яму недзе тры з паловай, ня больш. А яно ўжо падае, аж нават бацькі ў гэта не паверылі. Асобенна ў тое, што хоць яно і зусім маленькае было, а аказалась усё як ёсьць жывое. Без усякага табе сіняку ці якога іншага парушэньня. Чаму прычынай паслужыла дзерава, а потым куст, рыняўшы ўсё на сябе ў смысьле ўдару.

Дык вось: наша гісторыя яшчэ больш невераятная. Бо яна пра дарослых людзей. Не ў паняцьці іх падзеньня на дзерава ці куст — а ў значэньні падзеньняў зусім іншых, больш губіцельных.

Бо адзін чалавек іграў на электрычнай фісгармоніі. Ну? А акантузіўся ён не на ёй, а на зусім пастароньнім прадмеце, які ёсьць у кожнай нармальнай бабы. Ды ёсьць такія любіцелі, якія б хацелі, каб гэты прадмет у яе быў усевазможна большых памераў, здаравеньнейшы, аж да самай іх невазможнасьці. І ўсячаскі сабе хацят такіх баб, нармальных у сэнсе прадмету, а іменна тазу. Такіх няшчасных жэншчын, якія часта, можа, пакутуюць ад безабразія сваёй задняй канечнасьці целастраеньня. Бо ў гэтых такіх ненармальных любіцеляў да ўсякіх іншых жэншчын ня ўзьнікла ні любові, ні чаго іншага.

От гэты фісгармоншчык трапляе з канцэртамі ў вёску, дзе ўлюбляецца ў маладую. Не ў сваю, якая стане пасьля яго жонкай, не, а ў нявесту зусім аддзельнага ціпа. Прадсядацеля калхоза! З нагоды гуляньня ім зь ёй вясельля прыглашаюць, без уліку пасьледствій, такога вось музыканта, не здагадваючыся пры гэтым, хто ён на самой справе.

І, будучы прыглашонны ў смысьле музыкі, як сталічны музыкант, ён, не каб чэсна адыграць усё, як яму паложана, пачынае займацца зусім іншымі дзялішкамі, у смысьле сматрэньня на нявесту, но ня так, гдзе паложана, а значыцельным образам ніжэй. А калі ўжо яна хоча танцаваць, ён, цярае собсьвенны стыд, праз што пачынае граць красіва, як нікагда да таго ў жызьні ня граў. Што гэта заўважылі нават госьці, якія ўжо тут тры дні не хацелі нічога заўважаць, нават адно аднаго. І нават нявеста, і тая была патрасёная чуствамі, якія вазьнiклі ў ёй у паняцьці музыкі.

А той музыкант ужо да таго страціў сорам, што калі нявеста ўся-ўся наслухаўшысь падобнай музыкі, пайшла дыхаць на двор па нуждзе ў туалет, то ён, аказваецца, даўненька яе там паджыдаў. І настолька ён аказаўся перад ёй убядзіцельны ў смысьле страсьці, што яна забылася і пра сваё вясельле да прадсядацеля калхозу, і нават чаго яна сюды прыйшла — да такой меры, што адзін кум, які выпадкова такжа выйшаў у тое самае месца, вынуждзены быў як найхутчэй, забываючы пра ўсё на сьвеце, бегчы назад у хату да жаніха і бесьперанку расказваць усё, што яму давялося пераджыць, пабачыўшы такое на свадзьбе на свае вочы па дарозе ва ўборную, што там зараз выробляе нявеста з музыкантам, а асобенна, што музыкант выробляе зь нявестай.

Ад чаго ўсяго той жаніх, хоць і будучы п'яным, а саабражае схапіць вілкі-трайчаткі, каб імі за гэта запароць кума, каб той больш ніколі на яго вясельлі ня сьмеў казаць падобнага. Замест таго каб азірнуцца за сталом і не пабачыць сваёй нявесты, ён як віхор устрамляецца за кумам. Той жа бачачы ўсю сур'ёзнасьць намераньняў жаніха, асобенна вілак-трайчатак, пачынае хутка ўцякаць такім вобразам, каб папытацца прабегчы міма фісгарманіста із яго жэртвай абману. Тады малады, бегучы каля іхнага дзела, якое яны спраўлялі проста на дзерава абпёртыя, ня мог не заўважыць музыканта, а ў асобеннасьці нявесту, з прычыны яе белага плацьця.

Тады ён хуценька перастае прасьледаваць свайго кума, а замест таго скіроўвае свае справядлівыя вілкі ў пагоню за фісгарманістам, які хоць і цалкам асьлеплены сваёй нездаровай страсьцю, а ўсё-ткі кеміць пракраціць на гэты час свае атнашэнія к нявесьце, перамогшы свой пагубны парыў к таму, асоба яму важнаму прадмету, і ўмудрыўся-ткі цікаць праз ноч у сад.

Но бегчы там было небагата куды, з прычыны цеснаты індывідуальнага ўчастку, хоць і прынадляжачага прадсядацелю калхозу, аднак і на ім толкам нічога не пасееш, што ў сваю очарадзь падрывае нашу кармавую базу, бо самі сябе сяляне праз гэта няздатныя пракарміць, ня кажучы пра тое, што ўсьледствіе чаго вынуждзены красьці, каб хоць штосьці прадаць на кірмашы, што ў сваю чаргу зьмяншае колькасьць прадуктаў на продаж дзяржаве, праз што ў магазіне нічога нужнага ня купіш, акрамя моцна захімічаных прадуктаў пітанія. Або ж такіх, што растуць проста на людзкіх фэкаліях, узятых калгасамі проста з туалетаў, — такіх, як той, да якога своечасова не змагла дайсьці нявеста і цяпер, ня відзячы ніякага ратунку для ўцёкаў, наш музыкант змог пабачыць сабе выхад толькі ў дзьвярах яго, куды і пасьпеў увайсьці ўвесь і зачыніцца. Ад чаго не на жарт разьятраны жаніх пачынае разгойдваць і трэсьці яго з боку на бок усьледствіе сваіх удараў, вызванымі сільным ударам жаніха, патрасённага на свае вочы пабачаным у час сваёй лічнай свадзьбы. Прапорваў ён яго з усіх усевазможных бакоў, пакуль той туалет ня вытрымаў, ад чаго і расчыніўся, чаму дужа ўзрадаваўся вышэйзгаданы жаніх. І што ж ён там пабачыў, устрэмлённы ўзглядам?

Нічога, акрамя пустаты.

Пустаты адсутствія ў ней музыканта, і жаніх пачынае разумець, што той бяглец, судзя па ўсяму, васпользаваўшысь цемнатой ночы, праслізнуў міма туалету ў цемрадзь. Для чаго з рыкам і віламі памкнуўся далей, па вабражаемым маршруце, разрушаючы свой плот, у іншыя мясца лавіць і ўбіваць на месцы сваю жэртву.

А тым урэменем фісгармоншчык, праваліўшыся ўніз туалету скрозь дошкі ўсьледствіі сільнага іх патрасеньня вілкамі-трайчаткамі, здагадаўся-ткі, пагружаясь усё глыбей, не праізвадзіць пры гэтым ні звуку, ні голасу праз пазор, а асобенна праз страх, якія былі мацнейшы за ўсякія пазоры. Што знайшоў у сабе моц маўчаць і сядзець там цэлую вясельную ноч, у то ўрэмя, як маладыя ўядзініліся на спэцыяльнае брачнае ложа, каб як-небудзь нявеста змагла, урэшце, суцішыць жаніха і адабраць у яго вілкі.

Нягледзячы на гэта, госьці яшчэ доўгі час не пракрашчалі ўпатрэбленіе крэпкіх сьпіртных напіткаў, а таксама закусваньне іх усякімі крэпкімі ежамі, пасьля чаго кожны доўга хадзіў у прыбіральню. Несматра на то, што там прадаўжаў сядзець сталічны музыкант, які, напалоханы гэтым, вынуждзен быў не іздаваць пры гэтым ні звуку, дакуль усе госьці ўсё, што за тры дні доўгай свадзьбы зьелі і выпілі, не папераносілі туды і не разышліся па хатах.

Но музыкант не давяраў ім і дачакаўся савяршыўшайся раніцы, калі ні адзін нармальны чалавек ня выйдзе на вуліцу, калі ён не шафёр цэмэнтавозу, які праехаў у той час праз вуліцу. Тут фісгарманіст пачынае быстра панімаць, што ні адзін нармальны шафёр ні за які калым ня возьме яго ў машыну ў тым выглядзе, у якім той быў вылезшы з туалетнай ямы. Пытаясь не прыўлеч вніманія шафёра запахам, ён, пакуль вадзіцель, нічога ня зная і ня відзя перад сабой разрушанага плоту, спакойна хадзіў у туалет — ціхенька, не праізьведзя лішніх двіжэній, залез у кузаў цэмэнта і паехаў прэч із таго нешчасьлівага месца, дзе ён навекі пакінуў пасьля сябе фісгармонь, і, убаюканы яздой, незаметна для сябе заснуў ад вялікай усталасьці і дасады.

А прачнуўся ён ад таго, што нейкія незнаёмыя яму людзі б'юць яго ламамі і малаткамі, і кайламі... І што найбольш дзіўна, сярод усяго праісхадзяшчага, што ён пры гэтым не ашчушчае ніякіх боляў ці другіх якіх падобных ашчушчэній, што пачало яго моцна валнаваць. Но тут ён успакойваецца, абнаружыўшы раптам на сабе ўсё тое, што на ём паналіпала ад дліцельнага прабываньня пад туалетам, неажыданна абдалося густа цэмэнтам маркі чатырыста і тым самым ператварылася ў камень, калі не сказаць больш. Па якім дружна б'юць усе рабочыя, не імея іншай вазможнасьці сіл прапіхаць гэтую брылу пад бартом самазвалу і падганемыя крэпкімі крыкамі свайго прараба ў адрас гэтага, як ён пры этам казаў, памятніка. А таксама ў адрас усім іншым памятнікам, разам узятым ваабшчэ, якімі ў сьвеце новых веяній цяпер пытаюцца ўжо даважваць цэмэнт на стройках, праз дэфіцыты для павялічэньня вагі падляжашчых строймэтэрыялаў.

Якое ж было яго ўзьдзіленьне, калі той памятнік неажыданна ў яго на глазах раскалоўся і, узьдзеўшы сільнейшы вонь, наўсегда ўцёк са стройкі.

Пераклаў з украінскай Андрэй Скурко

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Археалёгія Беларусі:** У 4 т. Т. 2: Жалезны век і раньняе сярэднявечча/ А.Егарэйчанка, В.Шадыра, В.Вяргей ды інш.; Пад рэдакцыяй В.Шадыры, В. Вяргей. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 502 с.: іл. — Наклад 1300 ас. ISBN 985-08-0089-5

*Папярэдні том гэтага густоўна аздобленага й грунтоўна напісанага выданьня быў выдадзены ў 1997 г. Цяпер разглядаюцца помнікі беларускай археалёгіі жалезнага веку (ад 8 ст. да н.э. да 8 ст. н.э.). У кнізе багата ілюстрацыяў, схемаў і плянаў помнікаў. Цана 1 мільён рублёў.*

У.Ермалаеў. **Радком па кумпале:** Гумарыстычныя, сатырычныя вершы, літаратурныя пародыі/ Прадмова Я.Мальца. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 111 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-02-0220-3

Ч.Кірвель, А.Бародзіч, У.Разэнфэльд ды інш. **Гісторыя філязофіі:** Навучальны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў/ Пад рэдакцыяй праф. Ч.Кірвеля. — Горадня: ГДУ, 1997. — 917 с.: іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-417-039-X

*Унікальная зьява — упершыню па-беларуску выходзіць нарыс гісторыі філязофскае думкі ад ейнага зараджэньня да сучаснасьці ўлучна зь вялікім блёкам беларускае філязофіі. Набыць можна толькі на кніжным кірмашы ля ст. м. «Першамайская» (у будынку канцэртнае залі «Менск»).*

В.Кунцэвіч. **Горкая спакуса:** Кніга лірыкі. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 176 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-51-3

**Памяць:** Гістарычна-дакумэнтальная кроніка Клецкага раёну/ Укладальнік М.Кусянкоў; Мастак Э.Жакевіч. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 622 с. — Наклад 5053 ас. ISBN 985-02-0486-9

*Чарговая кніга гэтае сэрыі, як заўжды, мае адбіткі часу: Рыгоравіч і мноства чырвоных партызанаў глядзяць з бачынаў. Гістарычны матар'ял цешыць наяўнасьцю цікавых фотаздымкаў і дакумэнтаў. Неўзабаве будзе ў кнігарнях.*

В.Старычонак. **150 твораў зь беларускае літаратуры.** У дапамогу абітурыентам і школьнікам. — Менск: Вышэйшая школа, 1999. — 383 с. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-06-0521-9

М.Шумейка, К.Казак, В.Селяменеў. **Архивоведение Беларуси.** Учебное пособие для студентов исторических факультетов вузов в 2-х частях. Ч. 1: История и организация архивного дела/ Менск: Выдавецкі цэнтар РИВШ, 1998. — 216 с. — Наклад 300 ас.

М.Шумейка, К.Казак, В.Селяменеў. **Архивоведение Беларуси.** Учебное пособие для студентов исторических факультетов вузов в 2-х частях. Ч. 2: Теория и методика архивного дела/ Менск: Выдавецкі цэнтар РИВШ, 1998. — 196 с. — Наклад 300 ас.

*Упершыню ў Беларусі падрыхтаваны навучальны дапаможнік, што знаёміць з гісторыяй беларускіх архіваў і архіўнае справы ад часоў Полацкага княства й Вялікага Княства Літоўскага да нашых дзён. Кніга праз абмежаваны наклад пайшла ў бібліятэкі. Мае шмат каштоўных дадаткаў і грунтоўна раскрывае тэхніку фармаваньня й захаваньня архіўных фондаў. Рэцэнзіі ў Беларусі дагэтуль на гэтую працу няма, ва Ўкраіне ўжо пахвалілі.*

В.Шырко. **Вунь чурылавец пайшоў:** Гумарыстычная аповесьць. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 318 с.: іл. — Наклад 1200 ас. ISBN 985-02-0236-X

Кнігі чытаў Віктар Мухін

# НАВЕКІ РАЗАМ

Андрэй ДЫНЬКО

Улетку, шпацыруючы вуліцай Маршалкоўскай з рэдактарам львоўскага супэрінтэлектуальнага часопісу з супэрукраінскай назвай «Ї» Тарасам Возьнякам (дзе яшчэ як не ў Варшаве беларусы могуць гуляць з украінцамі?), дык вось, спацыруючы і разважаючы над тым, чаго бракуе Беларусі, мы падвергліся дзёрзкаму нападу хуліганаў: іх было трое, яны тыкалі нам кулакі ў грудзі і з выразнай расейскай інтанацыяй пыталіся: «Пан палі?» Пан Возьняк, які па сумяшчальніцтве працуе загадчыкам аддзелу міжнародных сувязяў Львоўскай мэрыі, вёў сябе вельмі дыпляматычна, тымчасам ззаду нам на дапамогу пасьпяшаўся пан Фінбэрг, дырэктар кіеўскага Інстытуту юдаікі — вельмі палажыцельнай камплекцыі і зь вельмі калярытнай барадою. Бачачы гэткую прыгоду, бэйбусы расчыніліся ў шэрым бэтоне посткамуністычнай Варшавы.

Ва Ўкраіне ёсьць усё тое, чаго бракуе Беларусі.

Ва Ўкраіне ёсьць горы Карпаты, мора Чорнае, чарназёмы казачныя, пшаніца цьвёрдая Amber Durum, для вытворчасьці макароны прыдатная, алей сланечнікавы, пэрсікі херсонскія, курорты крымскія, флёт марскі, бамбавікі стратэгічныя, віно масандраўскае, каньяк закарпацкі, П'емонт галіцкі, Львоў-горад-карабель і Адэса-горад-Жванецкі, вуліца Дудаева і лесьвіца Пацёмкінская, гонар нацыянальны, вугаль данецкі, патрыярх аўтакефальны (нават два) і *экс*-прэзыдэнт (а мо ўжо і два?), гімн «Шчэ нэ вмэрла Украіна», мячэты, перабудаваныя ў саборы, і гарады-героі Бэрдычаў і Жмерынка, філёзаф Скаварада і «Воплі Відаплясава», «Запарожац за Дунаем» і «Запарожац» на колах, у тым ліку гарбаты, у тым ліку навукова-фантастычная машына «Валынец» вытворчасьці Луцкага заводу мэталавырабаў і ракеты «Пратон». Ва Ўкраіне ёсьць казакі, казачэнькі, «Напій козацькій міцный», гайдамакі і бандэраўцы, хахлы і маларосы, фэміністкі і магіла Вялікага Кабзара, бакцянкі на берагаўскіх тытунёвых плянтацыях, Наталка-Палтаўка і Канатопская ведзьма, вечары на хутары ля Дыканькі і раманіст-постмадэрніст Андруховіч, антылёпы ў Асканы-Нове і *рэ-э-эдкая пташка да сярэдзіны Дняпра...*

Рэдактары інтэлектуальных часопісаў займаюць там пасады загадчыкаў аддзелаў міжнародных сувязяў мэрыяў і арганізуюць прыезды Гілары Клінтан у Львоў. Раз на пяць гадоў там праходзяць *выбары* (*а шчо цэ таке?* — будуць пытацца ўнукі тых, што *свой выбар ужэ зьдзелалі раз і наўсягда*). Урэшце, там у опэры Яўген Анегін сьпявае: «Чы я ўпаду, дручком пропэртый» — а ў рэкляме шампуню «Гед энд шоўлдэрз» «баба» ў «чоловіка» пытаецца: «В тэбэ е лупа?» Ба, ды ў іх тэлевізія ёсьць!

І я, выступаючы за гістарычна непазьбежную ўнію Беларусі з Польшчай у XXI стагодзьдзі, ведаю: у вырашальны дзень... Не, гэта будзе ноч... Самалёт з канцлерам Беларусі Вінцуком Калядкам вылеціць зь Менску ў Варшаву — і ўжо рэзыдэнтура дэфэнзывы сядзе за пляшкай «выбаровай» і напаўголасу завядзе «Сто лят»... Але самалёт раптам прызямліцца ў Кіеве! І заключаць Менск з Кіевам саюз на ўсе вякі! І вып'юць «Белавескай», і зап'юць «Украінськой з пэрцем», і станцуюць крыжачка, і засьпяваюць «Галю». І возьмуць у свой саюз яшчэ жыдоў. А больш бясплатна нікога ня возьмуць. Бо хто нам будзе яшчэ трэба, калі мы будзем разам — беларусы, украінцы й жыды!

Ох, і я тады зажыву, бо ўжо ніхто ня скажа, што ў Берасьці ня можа быць украінцаў! Шмо, Дынько!..

Шмат чаго ёсьць ва Ўкраіне, шмат чаго ёсьць у Беларусі. Адна на дваіх у нас толькі Картагена нашай правінцыйнасьці, якую трэба разбурыць. А правінцыйнасьць — там, дзе беднасьць. ■

Наша Ніва 90 гадоў таму

## Аб беларускім нацыянальным адраджэньні

Вось, скончыліся ўжо тры гады, як нарадзілася беларуская газэта. Тры гады друкаванае беларускае слова нясе ва ўсе куты нашае старонкі думкі аб адраджэньні забытага ўсімі народу, паказывае беларусу, што ён такі самы *чалавек і грамадзянін* свайго краю, як усе іншыя, што мова яго і ўсё нацыянальнае багацьце мае вялікую цану, дый беларускі народ, пакрыўджаны гісторыяй і людзьмі, павінен заняць пачэснае месцэ ў сям'і братніх нацый. Газэта асьвятляе гэтае жыцьцё мужыка-хлебароба, і ў гэтай рабоце ёй памагаюць самі беларускія сяляне: усё болей павялічваецца грамада супрацоўнікаў і карэспандэнтаў газэты, і таму ў ёй, як у люстры, бачым жыцьцё краю.

Але ня самае друкаванае слова, не сама газэта робіць адраджэньня 8-мільённага народу, бо ёй гэта і не пад сілу: яна толькі кіруе яго, яна разьдзьмухвае тыя іскры нацыянальнай сьведамасьці, што бліснулі ў часі завірухі, каторая ад краю да краю ўскалыхнула ўсё Расейскае гасударства.

Аднэй з прычын упадку першых культурна-нацыянальных беларускіх арганізацый было і тое, што рэвалюцыйная завіруха захапіла ўсю нашу моладзь. Усе інтэлігентныя сілы краю заняліся аднэй толькі палітыкай. Тады залажыліся першыя беларускія палітычныя арганізацыі-партыі.

Праз тры гады жыцьця беларуская газэта пасьпела ўсё-ж такі зрабіць нямала. — «Наша Ніва» выклікала грамаду супрацоўнікаў-сялян і гэтак зрабілася народным дзелам — народнай уласнасьцю. На яе клік паадкрываліся новыя беларускія культурна-нацыянальныя арганізацыі — суполкі «Мянчук», «Наша Хата» і т.п., ды ўсе яны шчыра працуюць, каб узбагаціць родную літаратуру і даць беларусам можнасьць вучыцца з кніжак, пісаных мовай бацькоў іх.

За тры гады жыцьця «Нашае Нівы» было ў ёй выдрукавана: 906 карэспандэнцый з 489 розных вёсак і мястэчак Беларусі; 246 вершаў 61 песьняра і 91 апавяданьняў 36 розных пісацеляў.

*Ад рэдакцыі*

## прыватныя абвесткі

**16 лістапада а 16-й гадзіне Малады Фронт ладзіць канфэрэнцыю** «Студэнцтва супраць дыктатуры», прымеркаваную да 10-х угодкаў Аксамітнае рэвалюцыі ў Чэхіі. Абяцаў выступіць чэскі пасол. Адрас: Менск, Варвашэні, 8. Запрашаем усіх!!! Управа БНФ

**Куплю слоўнікі** Станкевіча і Насовіча. Т.: 234-85-19

**Прапануем в/а працу** з інфармацыяй у хаце. Гарантыя. Ад Вас — капэрта са зв/а+купон б/а. 213828, Магілёўская вобл., Бабруйск, а/с 22

**Фэн-клюб гурта «Камэлот»** прымае заяўкі на атрыманьне другога альбому. Ад Вас капэрта са зв/а. 220053, а/я 36; 220117 Менск, Бялецкага 32-82, т.: 274-58-08

**Пазнаёмлюся з прывабнай беларусачкай-**нацыяналісткай ад 15 да 20 гадоў. 225210, Бяроза, Чырвонаармейская 77/2, Ігар

**Нямецкая мова** — рэпэтытарскія паслугі, пераклады. 220053, Менск, а/с 191

**Дзякуй стаматолягу** Марыне Сьліжэўскай за выратаваныя ад карыесу зубы. Андрусь

**Вялікі дзякуй Уманскаму** Л. і Русіянаву С. зь Менску за дасланыя беларускія песьні з акордамі. Чакаем яшчэ. 222120, Барысаў, а/с 541

**Людзі сталага веку**! Успомніце, як пасьля 44-га ў Зах. Беларусі змагаліся супраць бальшавікоў! Пішу кнігу! Пінск, т.: (0165) 359776, 359210

**«Радавая Беларусь»** раскрывае чорныя пляны варшаўскага эмігранта Затора Факсьняка й распавядае пра сэксуальныя вычварэньні маскоўскіх НКВДыстаў на ўсходзе Беларусі ў 1939 г. Чытайце гэтыя ды іншыя бээнэраўскія навіны ў апошнім нумары газэты, які Вы атрымаеце, даслаўшы капэрту з маркаю, купон б/а і 30.000 на адрас: а/с 169, 220030, Менск

**Просім адгукнуцца Курыльчука М.**, унутраны голас якога ня хоча маўчаць: вада бяжыць, бо камень ужо сапнуты! Берасьце, т.: 26-48-31

**Redakcyja hazety «NAŠA NIVA iścinnaja»** zamaŭlaje dla specyjalnaha numaru, pryśviečanaha ZIAMFIRY, pierakłady jejnych pieśniaŭ u biełaruskuju/litoŭskuju movu. Dasyłajcie: a/s 169, 220030, Miensk

**Usie, chto słuchaje j fanacieje** praz slaŭnuju dačku baškirskaha narodu śpiavačku ZIAMFIRU — listujcie! Zadzinočańnie Biełaruskich Ziemfirystych

**Бясплатна вышлю каталёг** са 100 мэтодыкамі на ўсе выпадкі жыцьця! Укладзіце капэрту са зв/а. 213410, Горкі-5, а/с 30

**Самаму беларускамоўнаму** зь дзіцячых дактароў з пажаданьнямі здароўя. Скажам гучнае «не» салям на Вашым карку. Вавёрка-вантробніца

**Набуду кнігу** М.Мушынскага «Якуб Колас: Летапіс жыцьця і творчасьці». Тэл.: 262-67-02, Валянцін

**Jaho mość Karol Polski** Kniaź VKL Jan IV, хлопчык-гей і злобныя фэны «Карысных выкапняў»! Chadziemcie-tka da čortavaj dupy. Jan Susanin

**Прапануем в/а працу** ў хаце (250 у.а.). Здолее кожны! Укладзіце 2 кап. (адну са зв/а) + купон б/а: 220089, Менск, а/с 122

**Хрысьціяне!** 19 лістапада ў 17.30 на **Ўправе БНФ** (Варвашэні 8) распачынаецца канфэрэнцыя **"Хрысьціянская ініцыятыва"**. Прыходзьце ўсе

**Іне Піменавай:** Дзеяньні Апостальскія, разьдзел 16, вершы 17-18. П.

**Дарагая мая, любая сяброўка Людачка!**
Віншую цябе з днём народзінаў.
Зычу здароўя, каханьня і аптымізму, любові і павагі тваіх дзетак, падтрымкі моцнага мужчынскага пляча Віктара.

*Маладыя гады,*
*Маладыя жаданьні!*
*Ні жуды, ні нуды,*
*Толькі шчасьце каханьня,*
*Будзь жа век малады,*
*Поўны сьветлымі днямі!*
*Пралятайце, гады,*
*Залатымі агнямі!"*

*Твая аднакурсьніца Лена*

**Мілая наша аднакурсьніца, Людачка Салонка!**
Віншуем цябе зь юбілейнай датай дня народзінаў.
Для нас ты заўжды застаесься маладой і прывабнай паненкай.
"Усё праходзе – і радасьць, і мукі.
Але будзеш мне помніцца ты, –
Броўкі цёмныя, вузкія рукі
І галоўкі радок залаты".
*Былыя студэнты гр.127 інжынэрна-фізычнага факультэту БПІ, Сяргей Жураўскі і Аляксандар Берастаў*

## паштовая скрынка

**Сяргею Б. з Гомеля.** *«Празорца» распадаецца на асобныя сказы, якія не [illegible] вобразы. Зашмат паралюшаваных лексэмаў. Ставячы падобную мастацкую задачу, Фэліні з Гуэрам стварылі «Амаркорд» — мазаічнае палатно, складзенае з вобразаў і словаў нагэтулькі ж спэцыфічных, наколькі шырокадаступных.*

**Віталю С. зь Менску.** *«Рок-музыка». Прычына сапраўды ў «банальнай раскрутцы», дзеля якой патрэбная небанальная рэальная эканоміка. А ў нас яе няма. «Беленькі ўсё сапсаваў». Правамоцны той, хто робіць.*

**Вячаславу Г. зь Віцебску.** *Напішыце Вы пра геяў і іх праблемы так, каб і гетэрасэксуалам было цікава чытаць. І не журыцеся.*

**Раману Р. зь Севастопалю.** *Калі ГУУАМ увядзе візы супраць Расеі і Беларусі, дык нам будзе цяжэй і ва Ўкраіну прыяжджаць.*

**Эрнэсту Цецяроўскаму, Андрэю Захаранку, Алесю Лубнеўскаму, С.Шарубу, Г.Туровічу.** *Просьба зьвярнуцца ў рэдакцыю па ганарар або паведаміць паштовы адрас.*



**НАША НІВА** КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______

______

Імя і прозьвішча ______
Адрас, тэлефон ______

Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 29 лістапада

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537. Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3068. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 23:21, 14.11.1999 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 5849. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12